

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

10 САКАВІКА 2000г. № 10/4042 КОШТ 75 РУБ.

## З "НАДЗЕЯЙ" — НЕ БЕЗНАДЗЕЙНА

**Валянціна ПАЛЕВІКОВА: "У нас была свая гісторыя, свая дзяржава, права і культура, была Еўфрасіння Полацкая і Рагнеда. Трэба толькі ўспомніць і пакарыстацца тым, што пакінута нам у спадчыну. І роля жанчын тут — найважнейшая. І кажу я зусім не пра бабскія бунты, якія былі ў гісторыі. Мы якраз і не павінны дапусціць іх..."**

6

## У ПАЛОНЕ НОВАГА ЖАНРУ

**Дзмітрый БУГАЁЎ пра празаічныя элегіі Васіля ЗУЁНКА**

6—7

## УСЁ РАДЗІННА-ДАРАГОЕ

**Вершы Святланы КАРОБКІНАЙ**

8

## ПАМІНАЛЬНАЯ ВЯЧЭРА

**Апавяданне Леаніда КАЛОДЗЕЖНАГА**

9

## "НЕ ХАЧУ ЗАЙМАЦЦА МАНІЛАЎШЧЫНАЙ..."

**Наталля ЧУЕВА: "Адно ведаю: чым вышэй пасада ў чалавека, тым больш сумленна і самааддана ён павінен працаваць на сваім месцы. Можа, гэта адзін з галоўных падыходаў да ўмацавання нашай культуры..."**

13

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **300 рублёў**, на квартал — **900 рублёў**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **930 рублёў**, на квартал — **2 тысячы 790 рублёў**.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Сёння вядомаму мастаку Алесю МАРАЧКІНУ спаўняецца 60 гадоў. Гутарку з юбілярам чытайце на стар. 10—11.*



# КОЛА ДЗЁН

***Прайшло ўсяго толькі дзесяць сакавіцкіх дзён, а вясна ўжо заявіла пра сябе цёплым надвор'ем і вялікімі лужынамі і ручаямі на вуліцах. Праўда, шматлікія адлігі "паспрыялі" змяншэнню вышыні снегавога покрыва і павышэнню воднасці ўсіх рэк краіны. Цалкам снег паспеў растаць на захадзе і поўдні Беларусі, на астатняй тэрыторыі вышыня яго складае ў асноўным 10-20 сантыметраў, а ў вярхоўях Заходняй Дзвіны і Дняпра — 40-50 сантыметраў. З дня на дзень чакаецца паводка. Максімальныя ўзроўні вады на большасці рэк чакаюцца ў канцы сакавіка — пачатку красавіка. І ўсё ж, якой паводка будзе сёлета — пакажа час.***

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Савет Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны прыняў рашэнне аб адкрыцці з першага верасня сёлетняга года спецыялізацыі "Літаратурная работа ў газетах і часопісах" на базе спецыяльнасці "Беларуская мова і літаратура". На прыняцце такога рашэння паўплывала сітуацыя з журналісцкімі кадрамі на Гомельшчыне, дзе выдаюцца 24 дзяржаўныя газеты, заснавальнікамі ці сузаснавальнікамі якіх з'яўляюцца органы выканаўчай улады, у свет выходзяць 12 шматтыражак, дзейнічаюць дзяржаўныя электронныя сродкі масавай інфармацыі, раённыя студыі радыёвяшчання і тэлестудыі. На 152 штатных адзінкі на Гомельшчыне творчых работнікаў толькі 122 чалавекі. З іх яшчэ 20 супрацоўнікаў пенсійнага і 26 перадпенсійнага ўзросту. А ў перспектыве, у сувязі з Чарнобылем, прытоку журналістаў у вобласць не чакаецца. Мэтазгоднасць журналісцкага факультэта ў ГДУ імя Ф. Скарыны была разгледжана на пасяджэнні абласнога выканаўчага камітэта і ўхвалена. Упраўленню па друку аблвыканкама даручана заключыць з універсітэтам дагавор на падрыхтоўку журналістаў, а фінансаваму ўпраўленню — адшукаць патрэбныя грошы.

### ПАЗІЦЫЯ ТЫДНЯ

У Міністэрства юстыцыі перададзены рэгістрацыйныя дакументы Беларускай партыі "Айчына", устаноўчы з'езд якой прайшоў у Мінску 22 лютага. Першым сакратаром цэнтральнага камітэта "Айчыны" абраны Вадзім Манькоўскі, які дагэтуль працаваў у аднайменным руху. Сваю палітычную пазіцыю новая партыя вызначае як цэнтрысцкую і апазіцыйную ў адносінах да дзеючых уладаў. Пакуль што ў складзе заснавальнікаў 1100 чалавек. У выпадку рэгістрацыі Мінюстам "Айчыны" ў нашай краіне будзе 18 партый, з якіх на слыху толькі 3-4.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ ТЫДНЯ

Праблемам размініравання тэрыторыі Беларусі і знішчэння наяўных у краіне запасаў супрацьпяхотных мін была прысвечана міжнародная канферэнцыя, якая прайшла ў Мінску. Пастаноўка пытання гучыць дзіўна, але аказваецца цяпер па шчыльнасці размяшчэння супрацьпяхотных мін на сваёй тэрыторыі Беларусь займае першае месца сярод іншых краін былога СССР. Па падліках спецыялістаў, знішчэнне адной міны самым танным спосабам (шляхам падрыву ці спальвання) будзе каштаваць Беларусі 1 даляр. Цяпер на нашай тэрыторыі знаходзіцца больш за 1,5 мільёна супрацьпяхотных мін са скончаным тэрмінам захоўвання.

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Якой бы ні была эканамічная сітуацыя ў нашай краіне, будаўніцтва жылля не спыняецца. Праўда, растуць цэны на будаўнічыя матэрыялы, але ўсё ж на працягу 2000 года ў Беларусі плануецца ўвесці ў эксплуатацыю прыкладна 3,5 млн. квадратных метраў жылой плошчы. За кошт падпарадкаваных дзяржаве арганізацый будзе ўведзена толькі 43 працэнты ад агульнага плана. Словам, калі хочаш мець кватэру, асабліва цяпер не спадзявайся, што яе табе дасць бясплатна дзяржава.

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Хто любіць ездзіць на таксі, таму давядзецца з гэтага тыдня яшчэ больш раскашэліцца — пастановай Міністэрства транспарту і камунікацый у краіне зацверджаны новыя гранічныя ўзроўні тарыфаў за прадастаўленне паслуг легкавымі аўтамабілямі таксі. Апошняе павелічэнне тарыфаў адбылося два месяцы таму. Цяперашняе падаражанне паслуг таксі тлумачыцца значным ростам цэн на гаруча-змазачныя матэрыялы і на прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння. І сёння, каб праехаць на таксі адзін кіламетр, трэба будзе заплаціць 150 рублёў (было 115), за так званую "пасадку" — таксама 150 рублёў (было 115), за адну гадзіну прастою таксі па віне кліента — 1500 рублёў (было 1150). Так што, калі ёсць грошы, можаце ездзіць і на таксі...

### УПАРАДКАВАННЕ ТЫДНЯ

З 1 сакавіка, згодна з пастановай Савета Міністраў N 202 "Аб некаторых пытаннях упарадкавання рэалізацыі тытунёвых вырабаў", на рынках краіны забараняецца аптовы гандаль тытунёвымі вырабамі. Мэта пастановы — узмацненне дзяржаўнага кантролю як за вытворчасцю і абаротам, так і за ўвозам і продажам тытунёвых вырабаў на тэрыторыі Беларусі. Аптовым гандлем будуць займацца толькі тыя юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі, якія атрымалі адпаведную ліцэнзію. Усе меры, якія выкладзены ў пастанове, на думку яе распрацоўшчыкаў, павінны прывесці да зніжэння надбавак на тытунёвыя вырабы, паколькі будзе скарочана колькасць пасрэднікаў і ўзрасце абгрунтаванасць цэн на цыгарэты. А хто не курыць і не гандлюе, таго гэтая пастанова не тычыцца — шчаслівыя людзі.

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Мала, відаць, на свеце людзей, якія не любяць падарожнічаць, бо ўсёткі жыццё ў чалавека адно і яго цалкам прасядзець дома — гэта нават грэшна. Падарожнічаюць і грамадзяне нашай краіны. Так пры пасрэдніцтве турыстычных фірм у мінулым годзе за межы Беларусі выязджала 934 тыс. 205 чалавек. Беларусь жа наведала 75 тыс. 795 замежнікаў, што на 15,5 тыс. менш, чым у 1998 годзе. Пераважная большасць нашых грамадзян — 740 тыс. 530 чалавек выязджала ў Польшчу. Расію ў якасці турыстаў наведала крыху больш як 82 тыс. чалавек, Украіну — амаль 21 тыс., Чэхію — 18247, Літву — 17726, Балгарыю — 14114, Германію — 11843 і т.д. Мяркуючы па лічбах, беларусы лічаць за лепшае выязджаць у Польшчу...

### ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што тое, што лішняя вага ні ў якім разе не спрыяе здароўю і даўгалеццю, не адпавядае рэальнасці. Аказваецца, залішняя худзізна ў пажылым узросце павялічвае рызыку сардэчнага прыступу ў гіпертонікаў. Вынікі даследавання, праведзенага вучонымі з каледжа медыцыны імя Альберта Эйнштэйна (Нью-Йорк), былі змешчаны ў адным з амерыканскіх часопісаў. Пасля пяці гадоў назірання за 3975 добраахвотнікамі ва ўзросце старэй за 60 гадоў, вучоныя высветлілі, што ў асоб, для якіх былі характэрны больш нізкія суадносіны масы цела да росту, сардэчныя прыступы здараліся крыху часцей. Механізм гэтай з'явы незразумелы, але спецыялісты мяркуюць, што яна можа быць абумоўлена большай схільнасцю худых людзей да стрэсу ці недахватам у іх рацыёне важных для імуннай сістэмы рэчаў. Словам, калі ў вас добры апетыт, то еште на здароўе!

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Шмат пытанняў было зададзена паэту-франтавіку Пятру Прыходзьку падчас адкрытага ўрока, прысвечанага яго творчасці, на які прыйшлі ў пісьменніцкую бібліятэку вучні мінскай школы N 10. Пра юбіляра шмат цёплых слоў сказалі Алесь Савіцкі, Мікола Аўрамчык, Паўлюк Пранузa. Школьнікі цікавіліся эпізодамі франтавой біяграфіі П. Прыходзькі, асобнымі аспектамі яго творчасці.

І, вядома ж, гучалі вершы як самога юбіляра, так і тых, хто правёў гэты незвычайны ўрок.

●

Працягваюць прыходзіць адказы з абласных цэнтраў на лісты, якія адправіў Саюз пісьменнікаў кіраўнікам мясцовай "вертыкалі" аб ушанаванні юбілейных дат пісьменнікаў-землякоў.

У прыватнасці, намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама У. Цацока паведаміў, што плануецца адзначыць літаратурнымі сустрэчамі і вечарынамі юбілей Рыгора Барадуліна, Леаніда Калодзежнага, Уладзіміра Папковіча, Алеся Петрашкевіча, Петруся Броўкі, Аляксея Дударава, Мікалая Манохіна, Уладзіміра Корбана, Алеся Жаўрука, Тамаша Ляшонка.

15 ліпеня ў вёсцы Агароднікі Пастаўскага раёна пройдзе абласное свята паэзіі, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Дубоўкі.

17 сакавіка ў Міёрах на будынку сярэдняй школы плануецца адкрыццё мемарыяльнай дошкі, прысвечанай памяці Пятра Сушко.

У лістападзе ў Віцебску і Оршы пройдуць Дні літаратуры, прысвечаныя 70-годдзю з дня нараджэння У. Караткевіча. Адбудзецца першае ўручэнне прэмій імя У. Караткевіча, заснаваных аблвыканкамам.

У верасні ў Полацку адновіцца Скарынаўскае свята кнігі. Акрамя таго, у бібліятэках пройдуць чытацкія канферэнцыі, прэзентацыі кніг з запрашэннем пісьменнікаў.

●

Адбылося сумеснае пасяджэнне секцый крытыкі і прозы СБП, на якім было абмеркавана пытанне: "Сацыяльныя аспекты сучаснай прозы".

У пасяджэнні прынялі ўдзел вядомыя крытыкі, празаікі і навукоўцы. Старшыня секцыі крытыкі **Міхась Мушынскі** зрабіў кароткі агляд беларускай прозы апошняга часу, падкрэсліўшы, што пры аналізе празаічных твораў важна не толькі спыніць увагу на сацыяльных аспектах, але закрануць мастацкія, эстэтычныя праблемы, жанравыя асаблівасці гэтых твораў, а таксама маральна-этычную праблематыку.

М. Мушынскі асобна адзначыў росквіт беларускай аповесці, у прыватнасці, высока ацаніў аповесці Васіля Быкава "Ваўчыная яма", Андрэя Федарэнкі "Вёска" і "Салдат", Леаніда Левановіча "Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста". На яго думку, з цікавымі аповесцямі выступілі ў друку І. Шамякін, І. Навуменка, В. Адамчык, Л. Арабей, Ю. Станкевіч, Л. Калодзежны, Т. Бондар, І. Канановіч, У. Саламаха, Хв. Жычка, А. Казлоў, У. Паўлаў, А. Жук і іншыя. Убачылі свет і новыя раманы Г. Далідовіча, Г. Марчука, В. Іпатавай, М. Кусянкова, Л. Левановіча, Т. Бондар.

У сваім выступленні **А. Вараловіч** спыніўся на публікацыях, змешчаных у часопісе "Полымя", падкрэсліўшы іх разнапланавасць. Цікавымі, на яго думку, былі раманы на гістарычную тэму: "Кліч роднага звона" Г. Далідовіча і "Залатая жрыца Ашвінаў" В. Іпатавай. Удала выступіў у жанры прозы В. Зуёнак. Звярнулі на сябе ўвагу мініяцюры Я. Брыля, А. Масарэнкі, Л. Калодзежнага, апавяданне В. Адамчыка. Шмат можна гаварыць пра творы В. Быкава і І. Шамякіна. Кожны па-свойму бачыць сучаснае жыццё і адлюстроўвае яго ў сваіх творах.

**У. Конан** выказаў думку, што трэба аднавіць практыку дакладаў па розных пытаннях літаратуры ў творчых секцыях. Ён лічыць, што В. Быкаў знайшоў новы кірунак у мастацкім даследаванні сучаснасці. Яго "Труба" і "Ваўчыная яма" — творы еўрапейскага ўзроўню. Яшчэ далёка не вычарпаны тэмы вайны, рэпрэсій.

Раман "Залатая жрыца Ашвінаў" В. Іпатавай у "Полымі" ўражвае. У ім пададзены вельмі яркія характары герояў і глыбока даследавана візантыйская культура.

Спыніўся У. Конан і на рамане Г. Далідовіча "Кліч роднага звона".

**І. Шаладонаў** гаварыў аб сацыяльнай праблематыцы, падкрэсліваючы, што ў грамадстве ствараецца духоўны хаос.

**П. Васючэнка** засяродзіўся на праблеме: мастак і ўлада. Улада ад мастака хоча паслушэнства, а мастак не можа падпарадкоўвацца, таму што ён мастак. Перад ім стаіць праблема выбару. Спробы будаваць вежы, каб схавацца ад мастацкіх навальніц, марныя, яны не выратоўваюць.

На пасяджэнні секцыі крытыкі і прозы таксама выступілі **В. Козіч, Л. Сінькова, Д. Санюк, А. Яскевіч, Л. Левановіч** і іншыя.

**Н. К.**




# Музыка для...

## НАРОДНАМУ АРТЫСТУ БЕЛАРУСІ ПРАФЕСАРУ Васілю РАІНЧЫКУ — 50

Папулярнасць ён спазнаў ужо чвэрць стагоддзя таму — як лідэр вакальна-інструментальнага ансамбля "Верасы", аўтар песень, аранжыроўшчык, піяніст. Але і да нараджэння "Верасоў" (новага слова тагачаснай беларускай эстрады, свежай з'явы сярод модных ВІА, якую прынялі-палюбілі многія маладыя слухачы на абсягах СССР) Васіля Раінчыка ведалі-цанілі ў музычным асяроддзі. Яшчэ ў свае студэнцкія гады ён праславіўся як віртуозны піяніст, дасціпны імправізатар, удзельнік бліскучага фартэпіяннага дуэта, дзе яго партнёрам быў незабыўны Ігар Палівода...

У В. Раінчыка дзівосны талент: адчуваць рытмы часу. І ён умее змяняцца разам з часам. І вучыцца. І заставацца маладым (юбілей — гэта, здаецца, не з яго "джэнтльменскага набору"). Скончыўшы Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класе фартэпіяна прафесара В. Шацкага, ён, ужо кіраўнік "Верасоў", знайшоў магчымасць праз некалькі гадоў атрымаць і кампазітарскую адукацыю — у класе маэстра Я. Глебава. Ён мяняў музычны стыль ансамбля і сцэнічнае аблічча; рашуча і, кажуць, даволі жорстка развітваўся з ім жа ўзгадаванымі "зоркамі". Як, бадай, ніхто з яго калег асвоіўся ў стыхіі камп'ютэрнай музыкі, нават наладзіў у сталічнай філармоніі канцэрт-прэзентацыю дзігітальнага аркестра. Урэшце, здолеў спалучыць працу музычнага кіраўніка Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра эстрады з педагагічнай. А творчае жыццё "Верасоў" — прадоўжыць у выступленнях новага дзіцячага ансамбля — "Верасяты"...

Эстрадныя п'есы; электронныя кампазіцыі; зухаватая кантата "Мальчыш-Кібальчыш"; Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам; "Карнавал", "Музыка для ўсіх", "Калыханка" і мноства іншых песень... У творчасці Васіля Раінчыка ёсць і шлягеры, і "нераскручаныя" старонкі. Але ва ўсім адчуваецца ўпэўненая рука дасведчанага і прагматычнага прафесіянала, які ўмее цаніць час і таму ніколі, здаецца, ад яго не адстане.

**С. Б.**



*На здымку: Васіль РАІНЧЫК з сынам Сяргеем.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

# "Хрысціянству — 2000"

У Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны адбыўся ўстаноўчы сход Міжнароднага камітэта па рэалізацыі Праграмы "Хрысціянству — 2000". У яго склад увайшло каля 60 сяброў: вядомых вучоных — даследчыкаў хрысціянства, у тым ліку замежных, выдаўцоў, асветнікаў, святароў. Прадстаўлены амаль усе навуковыя асяродкі ў краіне: якія тэарэтычна ці практычна спрычыняюцца да распрацоўкі гэтай тэматыкі. Старшынямі Міжнароднага камітэта адзінадушна абраны акадэмік, старшыня Нацыянальнага грамадскага камітэта "Беларусь — 2000 гадоў" Радзім Гарэцкі, прафесар Анатоль Грыцкевіч і дырэктар Цэнтра, загадчык аддзела праблем хрысціянства і нацыянальнага развіцця Любоў Уладыкоўская-Канаплянік.

На сходзе падкрэслівалася выключная актуальнасць узнятай праблематыкі, неабходнасць глыбокага асэнсавання феномена хрысціянства, разумення яго шматбаковай гістарычнай і перспектыўнай ролі на Беларусі. Звярталася ўвага на тое, што існуе шмат нявырашаных тэарэтычных, светапоглядных пытанняў. Разам з тым трэба падсумаваць зробленае ў гэтым кірунку і ў далейшай працы паспрабаваць пераадолець супрацьпастаўленне навукі і рэлігіі.

Ініцыятарам распрацоўкі Праграмы выступіў Скарынаўскі цэнтр. Праграма "Хрысціянству — 2000" створана ў межах рэалізацыі канцэпцыі развіцця Цэнтра, дапаўняе дзяржаўны "План мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкаванні 2000-годдзя хрысціянства ў Рэспубліцы Беларусь" і канкрэтызуе ініцыятыву Беларускага нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта па рэалізацыі Праграмы "Беларусь — 2000 гадоў".

Праграма "Хрысціянству — 2000" на першым этапе ўключае ў сябе чатыры праекты:

"Выдавецкая дзейнасць", "Навукова-даследчая дзейнасць", "Асветніцкая дзейнасць", "Каардынацыйная дзейнасць".

Прапановы і адпаведную інфармацыю просім дасылаць у Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, у аддзел праблем хрысціянства і нацыянальнага развіцця (220050, Мінск, Рэвалюцыйная, 15, Скарынаўскі цэнтр, тэл.факс 220-93-50), старшыні Міжнароднага камітэта.

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# Напісанае сэрцам

Першую кнігу заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Уладзіміра Шаліхіна "Сердце помнит..." з нецярплівасцю чакалі зацікаўленыя чытачы. Нарэшце, на прэзентацыі ў Нацыянальным выставачным цэнтры "БелЭКСПА" яны ўбачылі сігнальныя экземпляры гэтай навінкі, выпушчанай Мінскім выдавецтвам "Чатыры чвэрці". На прыгожай каляровай супервокладцы — здымкі выдатных музыкантаў, спевакоў, артыстаў: Івана Казлоўскага ды Марыі Біешу, Святаслава Рыхтэра ды Зары Далуханавай, Алены Абразцовай ды Інакенція Смактуноўскага, Мантсерат Кабалье і Людмілы Зыкінай...

Пра кожнага з вялікіх аўтар піша са шчырасцю і цеплынёй. З асаблівай сімпатыяй расказвае пра ўладальніцу прыгожага пяшчотнага голасу Дэбору Пантофель-Нячэцкую, пра аднаго з найвыдатных піяністаў свету Святаслава Рыхтэра, які мала каму даваў інтэрв'ю, а вось з Уладзімірам Шаліхіным сябраваў. З хваляваннем згадваюцца і сустрэчы з сусветна вядомай спявачкай Марыяй Калас, з праслаўленым скрыпачом Ягудзі Мянухіным, аўтографа якога аўтар кнігі чакаў трыццаць гадоў... У кнізе шмат выдатных імёнаў: Мая Плісецкая, Анатоль Салаўяненка, Мсціслаў Растраповіч, Ліна Мкртчан. Што не імя — зорка! Усіх проста немагчыма пералічыць.

Сярод беларускіх майстроў мастацтваў аўтар з захапленнем вылучае рыцара оперы Ісідара Балоціна, таленавітую спявачку Рыту Млодак, улюбёнца публікі Мікалая Ворвулева, выдатную балерыну Ніну Младзінскую, дырыжораў Віктара Дуброўскага, Яраслава Вашчака, якіх шанавалі і выкапаўцы, і слухачы...

Уладзімір Шаліхін, якому нядаўна споўнілася 70, за гады свайго жыцця ўдзельнічаў у дзесяці тысячах філарманічных канцэртаў. І яго кніга-альбом прадстаўляе не толькі ўспаміны аўтара пра сустрэчы з майстрамі мастацтва, іх здымкі, аўтографы, але і аўтабіяграфію самога Уладзіміра Аляксеевіча. Проста, сціпла распавядае ён пра сябе, пра перажытае.

Выданне адметнае і тым, што ў ім апублікаваны аўтографы многіх вялікіх людзей, рэдкія фота, якіх тут без малога 500: аўтар збіраў іх усё жыццё і беражліва захоўваў.

"Уладзімір Шаліхін прыйшоў да нас, — расказала галоўны рэдактар выдавецтва "Чатыры чвэрці" Ліліяна Анцух, — са сваёй ідэяй тэксту, мастацкага афармлення. І мы пастараліся захаваць яго аўтарскую задуму. Фактычна выдавецтва выпусціла гэтую кнігу ў аўтарскім варыянце". Дарэчы, у эпілогу ён выказвае шчырую падзяку ўсім, хто дапамог выданню яго рукапісу.

Прэзентацыя такой кнігі, натуральна суправаджалася цудоўнай музыкай. Граў камерны аркестр Палаца культуры Белсаўпрофа пад кіраўніцтвам Якава Гелера, выступаў і камерны хор "Кантус", якім кіруе Людміла Пашчанка. Мякка, выразна гучалі творы Моцарта, Баха, Дворжака, Грыга...

Альбом-кніга "Сердце помнит..." выпушчана пры частковым фінансаванні з фонду Прэзідэнта РБ па падтрымцы культуры і мастацтва. Можна не сумнявацца, што новае выданне папоўніць набыткі нашай культуры.

**Вера КРОЗ**



*На здымку: супервокладка кнігі У. ШАЛІХІНА.*

ВЫСТАВЫ

# Белая шэрань

Назвы выставаў Міхася Баразны заўжды інтрыгуючыя. І не заўжды зразумелыя з першага прачытання. За апошнія некалькі год ён прадставіў пяць сваіх фотаграфічных праектаў: "Вечны горад — вечны...", "Адзін у горадзе", "Мая Амерыка" і іншыя. На яго фотаздымках звычайна — нечаканыя адлюстраванні гарадскіх і вясковых "парадоксаў", архітэктура, пабачаная з нязвыклага ракурсу. На апошняй выставе "Белая шэрань", якая адбылася ў Музеі сучаснага мастацтва, — таксама нечаканасць. На вялікіх па памеры здымках — традыцыйныя зімовыя краявіды, якія суправаджаюцца аўтарскай тыпаграфікай, створанай паводле тэкстаў, напісаных пад уражаннем зімовых вандровак па Беларусі.

Сам Міхась сябе не лічыць канцэптуальным фотамастаком. Ён увогуле не любіць высокіх і гучных азначэнняў. Зрэшты, у беларускім фотамастацтве праяў сапраўднага канцэптуалізму на еўрапейскім узроўні зусім нямнога. Большасць фатографаў — добрасумленныя штодзённыя занатоўшчыкі. М. Баразна — з тых нямногіх, хто не проста збірае "сямейны альбом", а задумвае і распрацоўвае праекты. На яго здымках можна ўбачыць знаёмыя звыклыя краявіды, але пададзеныя так, што яны робяцца змястоўнымі і зусім незнаёмымі. І Рым, і Мюнстэр у яго тамтэйшы, як знікаючая беларуская вёсачка Амерыка. "Нарадзіўся паміж Амерыкай і Еўропай", — жартам і ўсур'ёз пісаў ён пасля. А звыклы нам Мінск можа глядзецца ў яго работах уяўным і несапраўдным. Так яго прачытвае мастак: сцены праглынаюць гукі, дэкарацыі патрабуюць штодзённай рэстаўрацыі, але Мінск, тэхнагенны і брудны, замяняе яму рысы многіх месцаў свету...

На пытанне растлумачыць сэнс сваіх работ Міхась рэагуе заўжды па-сяброўску — распавядае ахвотна і шчыра. Але смяецца, калі нехта некампетэнтны спрабуе адрозніць чорнае ад белага. Яго не цягне за мяжу, дзе ён мае шмат сяброў, дзе неаднаразова ўдзельнічаў у міжнародных мастацкіх праектах (напрыклад, "Guide Appolonia — Art contemporaine de l Europe — central und oriental" Савета Еўропы (1998), "Osteuroparogramm 1996/1997 der Kunstakademie Munster"). Для яго аднолькава любыя Віцебск, Вільня, Магілёў, Мюнстэр, Гданьск, Кругла, Рым...



Выставу "Белая шэрань" можна ўспрымаць па-рознаму. Як творы кніжнай графікі, якую Баразна даўно даследуе як навуковец. Як мастацкую іронію над "сучаснымі" формамі ў выяўленым мастацтве, тым больш для Міхася характэрна дакладна вызначыць і падкрэсліць яе тыповасць. Можна разглядаць выставу, як спробу азначыць параметры нашага жыцця. Бо на ёй усё — "біруліцкія" краявіды, зімовыя дрэвы, заснежаныя дахі дамоў, гарадскія матывы — усыпляюць як блізкае і знаёмае, тыповае для шэрага, кароткага зімняга дня, але ў той час тыповае для нашага існавання. Для самога Міхася галоўным тут была не ўласна выстава, а працэс работы, калі ты, шукаючы ракурс, бясконца блукаеш па вулках горада. У гэтым працэсе і нараджаецца адчуванне захаванага імгнення, эмацыянальнага стану сучасніка, фрагмента нашай цывілізацыі.

"Белая шэрань — гэта не стан прыроды... Паміж стоса шэрых ад часу паперак на белым стале — шурпатая тынкоўка, трызненне аб светлай канцэптуальнай ідэі, аб актуальнай тэматыцы. Гульня ў сакавітасць пры блёкласці. Нявызначаны брудны колер праспекта, скрыгатанне пустых слоў, смаленне сафітаў, танныя дэкарацыі... Белая шэрань для мяне аптымістычная і разам — няма надзеі. Белая шэрань толькі пакрывае сабою бруд. Нібы кажа: "Так лепей!" Белае гаворыць аб свабодзе, аб праўдзе часцей. Але шэрае аб гэтым скажа болей", — разважае мастак.

Міхась Баразна — не толькі выдатны фотамастак, ён і мастак кнігі, мастацтвазнаўца, курыруе мастацкія выставы ў рэспубліцы і за яе межамі, выкладае, публікуе навуковыя і крытычныя артыкулы. Яго заўвагі пра стан і сутнасць сучаснага беларускага мастацтва заўжды аб'ектыўныя, а партрэты мастакоў, пададзеныя на старонках рукапісаў, вельмі трапныя. Хацелася б спадзявацца, што праз пэўны час гэта рэалізуецца ў кнігу, якая стане арыгінальнай, нечаканай і цікавай даведкай пра мастацтва канца XX стагоддзя.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

### У рэдакцыю "ЛіМа"

*Паважаны рэдактар, прашу ласкава апублікаваць у вашай газеце наступную заўвагу:*

*"Выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў 1999 годзе выпусціла кнігу Алены Яскевіч "Абранне вечнасці. Універсалізм традыцыі і гістарызм сучаснасці", адным з рэцэнзентаў якой пазначаны Я. А. Чыквін. Хачу ўдакладніць, што, акрамя графічна-фанетычнага супадзення названага рэцэнзента з маім прозвішчам, усё ж аніякага (ні прамога, ні ўскоснага) дачынення да вышэйзгаданай кнігі я не маю.*

**Прафесар Ян ЧЫКВІН.**

Польшча

АБСЯГІ

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

### Дні польскай культуры

У мястэчку Васілішкі Шчучынскага раёна адбыліся Дні польскай культуры. І гэта невыпадкова: адсюль родам вядомы спявак суседняй краіны Чэслаў Неман, тут ён хадзіў у школу.

Плённы ўклад у падрыхтоўку і правядзенне змястоўнага мерапрыемства ўнеслі вучні Васілішкаўскай сярэдняй школы пад кіраўніцтвам настаўніц Ірэны Андрушкевіч і Ірэны Камко. Вучнёўскі хор з натхненнем выконваў народныя песні. А ў імправізаванай сялянскай хаце гучалі дасціпныя прымаўкі, загадкі і іншыя фальклорныя творы. Былі і захапляючыя танцы.

### "Прыгавор" з пажыццёвым тэрмінам

Неардынарна ўшанавала грамадскасць Ліды 50-годдзе мясцовага паэта і празаіка Віктара Бачарова, дырэктара сярэдняй школы N 13. Вечарына ў перапоўненай зале Дома культуры праходзіла ў выглядзе імправізаванага і адкрытага "суда" над творцам. Як ні стараліся абвінаваўца і суддзя, але іх намеры пацярпелі крах. Узяўшыя слова ў якасці сведак вядомыя паэты Данута Бічэль-Загнетава і Юрка Голуб, іх лідскія таварышы па пяры Уладзімір Васько, Міхась Мельнік, Іван Гушчынскі, Марыя Масла і іншыя адмялі надуманыя абвінавачванні: пераканаўча гаварылі аб таленце юбіляра, павіншавалі яго з выхадам у свет чацвёртай па ліку кнігі.

Прыгавор "суда" выклікаў апладысменты: Віктар Бачароў павінен займацца літаратурнай творчасцю пажыццёва. Прысуд канчатковы і абскарджванню не падлягае.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

### 40 гадоў за мальбертам

Мастак Роберт Ландарскі святкуе юбілей творчай дзейнасці. Нарадзіўся ў прыгарадзе Гомеля. З маленства ўпадабаў прыгажосць навакольных мясцін. Разам з Фёдарам Шкляравым — заснавальнікам Веткаўскага музея народнай творчасці — часта вандраваў па Сожы і Бесядзі, пісаў пейзажы. Пасля заканчэння Ленінградскага інстытута жывапісу, скульптуры і дойлідства пачаўся новы перыяд у творчасці Ландарскага. Ён стварае палотны высокага эмацыянальнага гучання. Роберт Яфімавіч тройчы выбіраўся старшынёй абласной арганізацыі Саюза мастакоў, членам прэзідыума праўлення СМ. У дзень юбілею Ландарскага павіншавалі сябры і калегі. А ён падрыхтаваў да гэтай даты вялікі цыкл палотнаў пра Прыдняпроўе.

### Прэстыж каледжа

Гомельскі музычна-педагагічны каледж імя Л. Выгоцкага (былое вучылішча) — адна са старэйшых навучальных устаноў Беларусі, якая зрабілася вядомай кузняй музычных кадраў. Тут працуюць кваліфікаваныя выкладчыкі, а творчыя калектывы, у тым ліку і "Пралескі", выступаюць на самых прэстыжных сцэнах.

Зараз у каледжы ствараюцца навукова-метадычныя аб'яднанні, якія павысяць творчы патэнцыял установы.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

### Першы акорд вясны

Фестываль гітарнай музыкі "Менестрэль" стаў для культурнага Віцебска сімвалам вясны. На гэты раз мерапрыемства было прадстаўлена знанымі імёнамі ў музычным свеце. Прыехаў у Віцебск вядомы Курт Радармер з ЗША. Расію і Беларусь на фестывальным свяце прадстаўлялі Анатоль Альшанскі (выназоднік новай рускай акустычнай гітары-ГРАН) і Ян Скрыган (студэнт Беларускай акадэміі музыкі, лаўрэат конкурсу ў Польшчы). Цікава, што для амерыканскага гітарыста Віцебск стаў першым знаёмствам з Еўропай. У праграме выступлення Радармера — "Гальдбергскія варыяцыі Баха". Знамянальна, што фестывальны "Менестрэль" выйшаў за межы Віцебска і ўпершыню прайшоў на сцэнах Полацка, Магілёва і Мінска.

### Семінар беларусістаў

У Кіраўскай сярэдняй школе адбыўся семінар настаўнікаў роднай мовы. Дзеці чыталі ўласныя вершаваныя сачыненні на добрай беларускай мове. Як адзначыў сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Франц Сіўко, які прыняў удзел у рабоце семінара, першыя крокі на літаратурнай сцяжынцы паказваюць, што не збяднела віцебская зямля на таленты, а ў школах, дзе шануюць родную мову, падрастае годная змена.

### "Гонар. Любоў. Ліра"

У трэці раз у Віцебскім дзяржуніверсітэце прайшоў конкурс маладых літаратараў "Гонар. Любоў. Ліра". Як адзначыў сакратар віцебскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Франц Сіўко, гэта вельмі добра, што ў наш складаны меркантыльны час моладзь цягнецца не толькі да камерцыі, але і да высокага мастацкага слова, і дасягае пры гэтым пэўных поспехаў.

### Авангард аўтарскіх калекцый

Конкурс мадэльераў-дызайнераў Беларусі "Белая амфара" лічыцца і рынкам ідэй, і святам моды. А пройдзе ён у Віцебску па традыцыі ў другой палове траўня. Аб гэтым было заяўлена на нядаўняй прэс-канферэнцыі ў культурнадзелавым цэнтры ААТ "КіМ". Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца прафесійныя мадэльеры-дызайнеры, прадстаўнікі прадпрыемстваў любой формы ўласнасці, студэнцкая моладзь. Прапануецца пяць тэм для стварэння аўтарскіх калекцый. "Белая амфара-2000" абяцае быць захапляльным відовішчам. Беларускія мадэльеры нядаўна вярнуліся з прэстыжнага конкурсу, які праходзіў у Дзюсельдорфе і пераканаўча засведчыў аб нараджэнні новай моды.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

### Дню жанчын прысвячаецца

У абласным цэнтры, у салоне мастацтваў па вуліцы Болдзіна, адкрылася міні-выстава нацюрмортаў Галіны Кананавай. Экспазіцыя прысвечана Дню жанчын і мае назву "Блакітнае і золата".

### Клуб бардаў

Зусім нядаўна магілёўскі клуб аўтараў-выканаўцаў размяшчаўся ў гарадскім цэнтры культуры і адпачынку. Сёлета, дзякуючы падтрымцы гарвыканкама, бард-клуб "Новы горад" атрымаў памяшканне ў жылым доме N 39. Менавіта тут будуць праводзіцца канцэрты і вечарыны. У новым памяшканні з цягам часу адкрыецца невялічкі музей аўтарскай песні Магілёва з бібліятэкай і фанатэкай.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## Новы крок у рэгіёназнаўстве

**Адной з найбольш актуальных культурных праблем сучаснасці з'яўляецца ідэнтыфікацыя і захаванне рэгіянальных адрозненняў у агульным мроіве шаблонаў і штампаў, якія нясе поп- і мас-культура. Вызначэнне, фіксацыя менавіта нацыянальных і рэгіянальных адрозненняў — найбольш важная практыка ў галіне гуманітарных навук апошняга часу. Тут надзвычайную ролю адыгрываюць рэгіянальныя канферэнцыі, якія дазваляюць даследаваць тыя ці іншыя рэгіянальныя асаблівасці, уводзіць іх у міжнародны і сусветны кантэкст, спрыяць дыялогу розных культур. Гэта, у прыватнасці, канферэнцыі, што праводзяцца ў Гродзенскім універсітэце — буйнейшым навуковым і адукацыйным цэнтры ў полікультурным, памежным рэгіёне. 12—13 лістапада 1999 года тут адбылася канферэнцыя "Культура Гродзенскага рэгіёна: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа", якая прайшла на факультэце гісторыі і культуры пад эгідай кафедры беларускай культуры. Кола праблем, паднятых на канферэнцыі, дазволіла шырока прадставіць рэгіён: ад археалагічнай старажытнасці да тэхнагенна-віртуальнай рэальнасці. Працавалі секцыі археалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі, гісторыі культуры, мастацтва і нумізматыкі, мовазнаўства і літаратуразнаўства. У канферэнцыі бралі ўдзел як мясцовыя навукоўцы і выкладчыкі, так і калегі з Варшавы, Шчэціна, Беластока, Кракава, Мінска, Слоніма, Карэлічаў, Санкт-Пецярбурга, Брэста, Гомеля, Рыгі. Розныя даследаванні паводле геаграфічных вектараў з Захаду і Усходу дазволілі аб'ектыўна паказаць спецыфіку Гродзенскага рэгіёна з гледзішча блізкіх і далёкіх суседзяў.**

**На канферэнцыі вызначаліся агульна-метадычныя праблемы вывучэння рэгіянальнай культуры і гродзенскага арэала, міжмоўныя кантакты і лексічнае ўзаемадзеянне ў гаворках Гродзеншчыны, адлюстраванне гродзенскага рэгіёна на старонках прэсы (на прыкладзе "Нашай Нівы" 1906—1910 гадоў). Археолагі і этнографы імкнуліся акрэсліць пытанні, звязаныя з першапачатковым засяленнем Гродзеншчыны, дынамікай энтакультурных працэсаў на Панямонні ў новакаменным веку, этнакультурныя працэсы ў беларускім Панямонні ў эпоху жалеза, а таксама этнакультурную сітуацыю ў канцы 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя. Даследаваліся і лакальныя праблемы, напрыклад, матэрыяльная культура паселішча Парэчча, агульнабеларускія рысы і рэгіянальная спецыфіка культавых камянёў Гродзеншчыны, яе фальклор, праблема нацыянальнай ідэнтыфікацыі яе жыхароў. У дакладах можна было пачуць пра феномен ліцвінскай культуры, асаблівасці гісторыі і культуры беларускай шляхты, пра асобных дзеячаў айчыннай культуры, такіх, як Юзаф і Аляксандр Быхаўцы, сям'я Аляксандра Сілезня, Ігнат Дамейка, Павел Баброўскі, беластоцкі пісьменнік Іпаліт Красоўскі. У шырокім аспекце разглядаліся гістарыяграфія культуры заходняга рэгіёна Беларусі ў XIX—XX стагоддзях, адукацыйна-асветніцкая дзейнасць у мястэчках Гродзенскай губерні, культурныя аспекты функцыянавання беларускага кірмашу і інш. Мастацтва Гродзеншчыны таксама было тэмай дакладаў — гаварылася пра архітэктуру касцёлаў, уніяцкіх храмаў, сінагог, мячэцяў, народную архітэктуру, старадаўнія касцюмы, геральдыку, матэрыяльную культуру шляхецкага двара Гродзеншчыны. Шэраг выступленняў быў прысвечаны нумізматыцы і скарбам. Былі і мовазнаўчыя даследаванні. У шэрагу дакладаў закраналася такая цікавая тэма, як нацыянальная самасвядомасць пісьменніка ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа, а таксама разглядалася асобна творчасць Ларысы Геніюш, Васіля Быкава, Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча.**

**Вынікі канферэнцыі могуць мець выключнае значэнне як паводле прадэманстраванага фактаграфічнага матэрыялу, яго аналізу і вынікаў, так і паводле стварэння метадалагічнай базы для вызначэння, даследавання, актуалізацыі і ўзмацнення рэгіянальнай спадчыны. Метадычныя высновы могуць мець значэнне, якое не абмяжоўваецца адной краінай, але будзе мець значэнне метадычна-навуковага арыенціра для сусветнага рэгіёназнаўства. Дыялог розных дысцыплін, розных часавых і культурных дыскурсаў, які адбыўся на канферэнцыі, сведчыць пра перспектывы і актуальнасць такіх даследаванняў у будучыні.**

**Алесь ТУРОВІЧ, выкладчык кафедры беларусазнаўства БДУ**

СПАДЧЫНА

# Мастацкі кірунак — сучаснасць

Калі аб'ектыўна і незалежна аднаўляць гісторыю нашага беларускага жывапіснага прарыву да сучаснага еўрапейскага мастацтва, неабходна асвятліць і малавядомыя яго "камерныя старонкі". А гэта значыць — выцягнуць для разгляду і абмеркавання з запаснікоў, са збораў сваякоў і блізкіх невялічкія эцюды нязрэйсненых палотнаў. Для галоўных крытэрыяў вызначэння нават важна прыняць не нейкую там ідэалагічна-значную тэматыку, а каларыстычную свабоду, нязмушанасць выяўленчай мовы. Нават у так званых "кітоў сацрэалізму" былі такія патаемныя спробы ў накідах з натуры, пейзажах, нацюрмортах. І гэта не кажучы пра тых мастакоў, якія так і не дачакаліся прызнання пры жыцці, а тварылі з надзеяй на тое, што калі-небудзь іх шчырае захапленне мастацкай незалежнасцю стане зразумелым і патрэбным.

Сярод тых, хто не ўпісваўся ў "сацрэалістычны" час і таму хадзіў у адлучэнцах, быў і Леанід Лапчынскі, жыццё якога спынілася ў 1994 годзе. Карэнны мінчук, выпускнік Мінскай мастацкай вучэльні, а потым Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, ужо з канца 50-х гадоў засведчыў свае жывапісныя здольнасці. Амаль трыццаць год быў выкладчыкам у мастацкай вучэльні і вывеў у свет не адно пакаленне будучых прафесіяналаў-мастакоў. Тройчы паступаў у Саюз мастакоў — не прынялі. Вельмі часта працы яго адхіляў выстаўкомы. Ён без асаблівых пратэстаў і лямантаў браў пад паху свой "спрэчны" твор і вяртаўся ў майстэрню, каб працаваць далей не па стандартах і нарматывах. Творы Л. Лапчынскага — прыклад мастацтва, якое патрабуе зараз увагі, тым больш, што спадчына мастака дагэтуль мала даследавана, знаходзіцца ў прыватных зборах.

На персанальнай выставе мастака, што была наладжана з нагоды яго 60-годдзя, мастацтвазнаўцы і мастакі нечакана ўбачылі сціплыя, але глыбокія каларыстычныя пошукі, якія многіх уразілі і перакаалі, што гэта сапраўднае сучаснае мастацтва. Мастак часоў "адлігі" не адышоў ад сваіх эстэтычных перакананняў, хоць многае з яго пошукаў — гэта накіды, эцюды, замалёўкі, экспромты, за якімі стаіць адчуванне інтуітыўнага метаду адлюстравання: чым далей ад праталькальнасці і вонкавай ілюзорнасці, тым бліжэй да сутнасці. Нечаканыя дэталі абагульняе колер, трансфармуючы рэальнасць у вобразнае светабачанне. Такім паўстае ў працах Лапчынскага стары Мінск, архітэктурныя помнікі Гродна, Міра, Раўбіч.

Нельга безаглядна рухацца наперад, калі жывапісна недаследаванай (калі не лічыць натхнёных прысвячэнняў Л. Лапчынскага, А. Малішэўскага, З. Літвінавай і іншых "непрыкметных" класікаў) застаецца сталіца сучаснага беларускага каларызму — горад Мінск. А такая пяшчотная архітэктуры і ландшафту, як Гродна ці наша "беларускае ўзгор'е-раздолле" ў раёне Раўбіч ля Мінска? Там некалі бываў Лапчынскі і пакінуў у спадчыну свае экспрэсіўныя ўражанні.

Былі ў мастака і іншыя наватарскія прапановы ў галіне пейзажа, нацюрморта, партрэта, камернай кампазіцыі. Многае ён бліскуча, як кажуць, адным узмахам пэндзля вырашыў сам. Многае можа быць заклікам да далейшых пошукаў.



Пройдзе час, і мы дачакаемся новай персанальнай выставы Леаніда Лапчынскага або калектыўнай выставы "невядомага" мастацтва 60—80-х гадоў. І яна ўразіць нас не адной супер-сучаснай ідэяй і будзе моцным стымулам для яшчэ больш актыўнага засвойвання таго творчага набытку, якім з'яўляецца сучасны стыль беларускага жывапісу — без купюр, выстаўкамаў і ідэалагічнай залежнасці.

**Яўген ШУНЕЙКА**

# "Абы не было вайны..."

ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ

Я ніколі не падумаў бы, што гэты дзяцюк з трэцяга паверха некалі "бясстрашна граміў нямецка-фашысцкіх захопнікаў у радах доблеснай Чырвонай Арміі": настолькі ён яшчэ маладжава выглядае. Аднак факт застаецца фактам: калісьці вось так пра Панцялея Кандратавіча нехта напісаў. Я чытаў тыя тры калонкі ў пажоўклай раённай газеце, а Панцялей Кандратавіч, седзячы за сталом насупраць мяне, перабіраў-перакладваў розныя паперы ў рудой папцы, відаць, адшукваючы нештачкі, каб яшчэ раз цвёрда пераканаць мяне, што ён менавіта такі, як пра яго пісалі ў раёнцы. Але гэтага "нештачкі" не адшукалася, былі звычайныя паштоўкі-віншаванні з рознымі святамі, якіх асабліва шмат адзначалася па тым часе. Былога ўдзельніка мінулай вайны "горячо и сердечно" віншавалі партыйныя арганізацыі лясгаса і масласырзавода, камбіната бытавога абслугоўвання і раённага вузла сувязі — прадпрыемствы і ўстановы, якія ў свой час узначальваў Панцялей Кандратавіч.

Апошняя ягоная пасада перад пенсіяй — дырэктар раённага Дома культуры. Можна толькі дзівіцца, з якой прынцыповасцю вышэйшыя кіруючыя галовы накіроўвалі "ўсеабдымнага" Панцялея Кандратавіча на гэту пасаду. Цікава, наколькі таленавіта і нястомна ён прасоўваў у шырокія працоўныя масы культуру, знаходзячыся на такім важным ідэалагічна-прасветніцкім пасту?

— У час вайны які род войск у вас быў? — пытаю ў суседа па пляцоўцы.

— О! Самы галоўны — матухна пяхота.

— А званне?

— Самае высокае — радавы, — усміхаецца Панцялей Кандратавіч. — Быў пісарам у штабе корпуса.

Нішто сабе! Корпус, вядома, не палку, нават не дывізіі таварыш. Гэта ўжо не блізкі свет ад праклятых траншэй, ад акопаў. На цэлы палёт дальнабойнага снарада.

Як жа так атрымалася, што я замест таго, каб усебакова і на высокім узроўні падрыхтавацца да заўтрашняй рыбалкі, сяджу вось тут, у кватэры Панцялея Кандратавіча? А ўсё атрымалася вельмі проста. Сустрэўшыся ў калідоры, сусед з вельмі ўжо ветлівай і цёплай усмешкай падаў мне руку, павіншаваў з днём Перамогі і запрасіў у кватэру "паказаць тое-сёе з франтавога жыцця". Не хацелася заходзіць, але не адмовіўся, чым засведчыў сваю поўную бесхрыбетнасць. Ужо ў вітальні Панцялей Кандратавіч прыцішана-змоўніцкім голасам прапанаваў мне "вішнёвую настойку на медыцынскім спірце". І калі я адмовіўся, гаспадар, прысеўшы за стол, пачаў з той самай рудой папкі. Я зразумеў: хоча, каб пра яго хоць што да было напісана. Але ж хаценне — яшчэ не здзяйсненне. У мяне няма жадання. Ні кропелькі. За якія такія заслугі пісаць пра гэтага чалавека ў газету, хай сабе хоць і ў шматтыражку? Звычайны радавы ўдзельнік сусветнай чалавечай бойні. І тут мне захацелася задаць Панцялею Кандратавічу шэраг пытанняў, над якімі я заўсёды задумваўся і задумваюся і якія, мусіць, да скону не будуць "растлумачаны" мне ніводнай публікацыяй.

— Ці не зашмат мы паклалі галоў у часіны мінулай вайны? — звяртаюся да Панцялея Кандратавіча як да ветэрана вайны і проста як да чалавека.

— Загінула васемнаццаць мільёнаў, — голасам бывалага палітінфарматара-агітатара адказвае мой субяседнік.

— Не, у два разы болей, — удакладняю я. — Пра гэта шмат пісалася ў прэсе, і лічба яшчэ не канчатковая.

— Глядзіце вы! — ад пачутага Панцялей Кандратавіч пакручвае круглай, як глобус, галавой. — А мы ўсё ад самай вайны далдонілі: васемнаццаць мільёнаў... Але ж навошта, скажыце, цяпер гэта рэвізія лічбаў?

— Разумееце, Панцялей Кандратавіч, усякая праўда пра мінулую вайну, якой бы суровай яна ні была, нават праз пяцьдзесят гадоў, патрэбна нашым нашчадкам, каб яны нам шчыра верылі... А ці задумваліся вы над тым, ці маглі б мы скончыць вайну дзевятага мая сорак пятага, калі б войскі саюзнікаў не дапамаглі ў сорак чацвёртым?

— Ну, калі б не ў маі, то крышачку пазней, але ўсё роўна перамаглі б Германію, — цвёрда гаворыць Панцялей Кандратавіч.

— Ці не паставіла канчаткова на калені японскіх ваякаў атамная бамбардзіроўка амерыканцамі Хірасімы і Нагасакі?

— Так ці інакш, але мы ўсё роўна іх разграмілі б. Любой цаной. Без амерыканскіх атамных бомбаў.

— Але ж гэта тысячы, мільёны сірот, што не дачакаліся б сваіх бацькоў.

— Вайна ёсць вайна. А як інакш?

— А як вы, Панцялей Кандратавіч, глядзіце на такі, ужо мірных часін, факт: пасля вайны нават у самых "глухіх" вясковых крамах была і чырвоная, і чорная ікра. Была і чырвоная рыба — кета, гарбуша. Дык чаму калгаснікі не куплялі такія далікатэсы, прытым па даволі нізкіх, не тое што цяпер, цэнах?

Панцялей Кандратавіч дружалюбна паляпаў мяне па плячы сваёй мяккай цяжкай рукой, сказаў:

— У калгаснікаў, самі ведаеце, свая натуральная гаспадарка — агуркі, памідоры, капуста. А ў дадатак — розны там часнок, цыбуля, пятрушка. Навошта была ім ваша ікра, нейкая там гарбуша?

— Дазвольце, Панцялей Кандратавіч, не згадзіцца з вамі. Калгаснікі не куплялі ўсе гэтыя і іншыя далікатэсы з прычыны "голых" працадзён, ніхто не атрымліваў ніякай пенсі.

— Так яно так. Вы праўду кажаце. Без усякіх гэтых далікатэсаў жыць можна, абы толькі не было гэтай праклятай вайны.

— У вас, гляджу, аднапакаёўка — такая ж і ў маёй цёткі, што жыве вышэй. На дваіх з жонкай у вас "не цягне" на дванаццаць метраў, як гэта было вызначана некалі савецкім заканадаўствам. Ці не лічыце вы, былы франтавік, сябе "абызджаным уладамі", а прасцей — пакрыўджаным?

— Ну, па-першае, гэты дом будаваўся кааператыўным спосабам. Можна заказваць і двух- і нават трохпакаёўку, былі б толькі грошы. У мяне, на жаль, іх не было. Цяпер, калі часам прыедзе да нас з Мінска дачка з унукам-студэнтам на дзён колькі — не размінуцца ў кватэры. Быццам у франтавой зямлянцы. Але ж, як кажуць, у цеснаце — не ў крыўдзе. Чалавек усё можа перажыць, усё вытрываць. Абы толькі не было вайны.

Крадком кідаю позіркі на Панцялея Кандратавіча. Расчырванелы, потныя шчокі, лоб. Гэта, мусіць, ад унутранага хвалявання. Свой любімы выраз "абы не было вайны" ён прывязвае да кожнай выказанай думкі. Усё, што робіцца і творыцца ў нашай беларускай дзяржаве, не падлягае крытычнаму аналізу з боку шаноўнага Панцялея Кандратавіча. Нават катастрафічны рост цэн на "пенсіянерскія" прадукты харчавання — малако ды хлеб — успрымае ён як "патрэбную стратэгію зверху", пра што мы, звычайныя зямныя кузюркі, і ведаць не павінны. За нас там, зверху, усё вырашаць, абы толькі не было вайны...

Як жа зацыкліла жыццё Панцялея Кандратавіча — не такога ўжо і прымітыўпрацэсчачка! І вось ён, "прадукт" таго часу, ва ўсім сваім абліччы і вымярэнні...

**Міхась ПАРАХНЕВІЧ**

***Два дні назад наша краіна адзначыла свята 8 Сакавіка — Дзень жанчын. Адгуло, адшумела свята, напоўненае ўсмешкамі, кветкамі, шчырымі словамі віншаванняў і падарункамі. Але святы канчаюцца, а рэаліі нашага сённяшняга жыцця зусім іншыя, далёкія ад святочных. Міф аб поўным разняволенні жанчыны, наданні ёй роўных правоў з мужчынамі, славуты ленінскі тэзіс аб тым, што кожная кухарка можа кіраваць дзяржавай, — усё гэта, не падмацаванае справай, толькі падман. І яго не заўсёды можна было выявіць. З аднаго боку, перад жанчынамі сапраўды раскрыты, як кажуць, усе дзверы. Сярод жанчын нямала вядомых у нашай краіне і за яе межамі выдатных музыкантаў, мастакоў, вучоных, артыстаў. З другога — нідзе ў цывілізаваных краінах не ўбачыш жанчыну-чорнарабочую, у гарачых цэхах, з рыдлёўкай ці ломам у руках.***

***І ўсё ж час мяняецца, і стаўленне да жыццёвых рэалій — таксама. Жанчыны пачалі адчуваць неадпаведнасць паміж сваім растучым укладам (з іх высокім асветным і прафесійным узроўнем) у грамадскі працэс і іх удзелам у кіраванні краінай, магчымасцю прымаць рашэнні. Яны пачалі самаарганізоўвацца ў партыі, рухі, асацыяцыі, фонды. І сярод іх не на апошнім месцы — Жаночая партыя "Надзея". Яе кіраўніца Валянціна ПАЛЕВІКОВА працуе ў федэрацыі прафсаюзаў краіны, яна сакратар выканкама Савета ФПБ. Сёння яна — госць нашага штотыднёвіка і дзеліцца з нашымі чытачамі сваімі развагамі аб становішчы жанчыны ў Беларусі, распавядае аб тым, што робіць партыя "Надзея", каб палепшыць яго.***

# З "Надзеяй" — не безнадзейна

— Што падштурхнула нас да стварэння жаночай партыі? Акурат само незайздроснае становішча нашых жанчын-працаўніц, іх нялёгкі, у многім безвыходны, трагічны лёс. Не адзін год я працавала на прадпрыемстве аб'яднання "Гранат", на ўласныя вочы бачыла, як дастаецца дзяўчатам і жанчынам у заводскіх цэхах, ва ўмовах, далёкіх ад агульна прынятых стандартаў бяспекі. Адпрацаваўшы адну змену, яны беглі па магазінах і з нагружанымі авоськамі і торбамі ішлі дадому, каб "укалваць" там у другую, а то і ў трэцюю змену. І мяне ўсё больш вярэдзіла думка: чаму ж гэтак? Чаму, нягледзячы на нібыта добрыя, справядлівыя законы, доля жанчыны ў нас такая гаротная? Чаму гэтыя законы толькі дэкларуюцца, а не выконваюцца? Хто абароніць, заступіцца за жанчыну? Мо ўсё-ткі гэта павінна рабіць найперш яна сама?

Знайшлося нямала аднадумцаў, і ў 1994 годзе мы заснавалі Жаночую партыю "Надзея". Далі ёй гэтае жаночае прыгожае і светлае імя са шчырым спадзевам на тое, што з "Надзеяй" справа наша будзе не безнадзейная. Першыя крокі нашы былі кволыя, часам сляпыя. На многае раскрыліся вочы, калі наладзілі сякія-такія міжнародныя кантакты. Убачылася, наколькі мы адсталі ад цывілізаванага свету, — мы аказаліся на ніжэйшым вітку развіцця. У любой іншай краіне жанчыны куды больш свабодныя, разняволеныя, яны паводзяць сябе без страху, цудоўна ведаюць свае правы і абавязкі і ўмеюць адстойваць іх. І гэта пры тым, што і там жанчына застаецца жанчынаю, з разуменнем і ўсведамленнем таго, што галоўнае ў іхнім жыцці — гэта дзеці і іх будучыня, сям'я і яе шчасце і абарона.

Абарона правоў жанчыны — праблема сацыяльная. Таму мы не крыўдуем, калі нашу партыю ўспрымаюць і разглядаюць як партыю сацыяльную. Толькі варта падкрэсліць, што яна створана не па полу — жаночаму, а, так бы мовіць, па праблемах, з якімі сутыкаецца большасць жанчын.

Сёння мы ўжо не тыя, якія былі пяцьшэсць гадоў назад. На першым этапе нашай дзейнасці была пераважна канстатацыя фактаў. Сёння ж мы шукаем шляхі выйсця з сітуацыі. Канкрэтная дапамога пакрыўджаным лёсам сем'ям, інвалідам, дзецям, старым людзям — вось наш клопат і наша работа. Але гэта — на лакальным узроўні. А мэты партыі, як і любой іншай, — палітычныя, задачы мы ставім агульнадзяржаўныя: каб жанчыны былі прадстаўлены ў парламенце і іншых органах улады і змаглі праз удзел у іх праводзіць і адстойваць сваю палітыку. Праблемы дзяцей і жанчын будуць станоўча вырашацца толькі тады, калі, скажам, у парламенце будзе не менш чым 20 працэнтаў жанчын. І гэта не нашы прыдумкі, гэта паказвае і пацвярджае шматгадовы вопыт еўрапейскіх краін. Згадаем: у парламентах Скандынаўскіх краін жанчын — да 50 працэнтаў, зараз у Фінляндыі ўжо і прэзідэнтам стала жанчына, як, дарэчы, і ў блізкай нашай суседкі Латвіі. У нас жа гэтага і зусім няма, што тлумачыцца нізкай палітычнай актыўнасцю нашых жанчын. Патрэбна мацаваць адзінства ўсіх жаночых арганізацый, рыхтаваць грамадства, выхоўваць у ім павагу да жанчын, разуменне іх ролі і значэння ў дзяржаве.

Адна з галоўнейшых нашых задач — інфармаванасць насельніцтва. А як гэта зрабіць? Праз удзел у выбарах. Ужо 1994 годзе мы вылучылі кандыдатамі ў парламент 34 жанчыны. Хацелася б, каб жанчыны-кандыдаты ад "Надзеі" прынялі ўдзел у новых выбарах і каб выбаршчыкі падтрымалі кандыдатаў-жанчын, якія лепш за каго б там ні было разумеюць, што трэба мяняць палітыку дзяржавы ў адносінах да жанчыны і сям'і. Але канчатковае наша рашэнне ўдзельнічаць у выбарах ці не будзе залежаць ад палітычных абставін у краіне.

Беднасць, галеча, жабрацтва — галоўная бяда нашага грамадства. Пра гэта нельга маўчаць. Ад галечы і жабрацтва пакутуе найперш жанчына. Кожная другая наша сям'я сёння — за рысай беднасці. Афіцыйныя даследаванні НДІ працы канстатуюць: 53,9 працэнта насельніцтва маюць заробкі ніжэй пражытачнага мінімуму. Трэба крычма крычаць аб гэтым. Маўчаць пра гэта — злачынна. Што можа быць горшым для маці, як не яе бяссілле накарміць і апрануць уласнае дзіця?!

Для кожнай партыі вельмі важная база, на якой яна ствараецца і сярод якой працуе. Наша сацыяльная база — прафсаюзы, наш актыў — гэта жанчыны, якія добра ведаюць працоўныя калектывы і іх праблемы.

Я ўжо казала, што законы ў нас — былі і ёсць — нібыта добрыя, прагрэсіўныя. Тым не менш, дыскрымінацыя жанчын — паўсюдная. Возьмем рынак працы. Дзве трэція беспрацоўных — жанчыны. А скрытае беспрацоўе? Узровень жаночага беспрацоўя на шматлікіх прадпрыемствах — да 40 працэнтаў. А такіх прадпрыемстваў у Беларусі — каля 2 тысяч. І на іх, на жаль, выкарыстоўваецца найперш акурат жаночая праца. І заработная плата на іх часта ніжэй не толькі спажывецкага мінімуму (25 тысяч рублёў), але і ніжэй рысы беднасці, якая ў нас зараз вызначана ў 18 тысяч. На многіх прадпрыемствах-банкротах згодна з калектыўнымі тарыфнымі дагаворамі працаўнікам выплачваецца дзве трэція мінімальнага заробку. А сярод іх, зноў жа, найбольш жанчыны.

Яшчэ горшае становішча ў вёсцы. Там узровень беднасці пастаянна вышэйшы, чым у горадзе. У дадатак там існуе і праблема шматмесячных запазычанасцяў па зарплаце. Вяскоўцаў ратуе адно падсобная гаспадарка. І каму там найцяжэй? Вядома ж, вясковай жанчыне. Яна цягне на сабе цяжкі, непасільны воз клопатаў па хатняй гаспадарцы, доглядзе дзяцей, грамадскай працы.

Урэшце згадаем бюджэтныя галіны. Тут таксама працуюць у асноўным жанчыны. Гэта сфера адукацыі, культуры, аховы здароўя, навукі. Вядзяленне сродкаў на іх часцей за ўсё адбываецца па сумна вядомым рэшткавым прынцыпе. І ў дзяржавы няма пакуль што разумнай і канструктыўнай праграмы, якая б дазволіла адысці ад гэтага вітка беднасці.

Дыскрымінацыя жанчын праяўляецца і іншым чынам. Хто возьме, скажам, на працу жанчыну, у якой трое і больш дзяцей? Альбо якой 45 і больш гадоў? У мужчыны, калі ён уладкоўваецца на працу, ніхто не пытаецца, колькі ў яго дзяцей, а ў жанчыны абавязкова папытаюць. Вазьміце газеты і пачытайце аб'явы. Усюды патрабуюцца маладыя дзяўчаты, да 30 гадоў. У любой іншай краіне такога прадпрымальніка даўно б пазбавілі ліцэнзіі, а ў нас на ўсё гэта — нуль увагі.

Вельмі шмат пытанняў і чыста жаночых, звязаных з іх гендэрнымі асаблівасцямі. Возьмем рэпрадуктыўную функцыю жанчын. Кепскія, цяжкія ўмовы працы — на халоднай цэментнай падлозе малочных камбінатаў ці ў цэхах з хімічнымі раздражняльнікамі — пагражаюць нараджэннем у жанчын хворых дзяцей. Хто на гэта звяртае ўвагу? Хто зараз турбуецца аб умовах, гігіене жаночай працы? Часцей за ўсё сёння пачуць абыякавы спасыл на адсутнасць сродкаў.



*В. ПАЛЕВІКОВА (пасярод) з В. АБРАМАВАЙ і К. ПРУКСКЕНЕ.*

У нас сёння 320 тысяч так званых няпоўных сем'яў, у якіх увесь цяжар клопатаў кладзецца на тыя жаночыя плечы. У няпоўных сем'ях з трыма і больш дзецьмі ўзровень беднасці пастаянна перавышае 70 працэнтаў.

Чвэрць нашага насельніцтва — пенсіянеры і пажылыя людзі. Сярэдняя ж пенсія — 12—14 тысяч рублёў. Відавочна, што многія са старых людзей ледзь зводзяць канцы з канцамі. Але яны прывыклі цярпець. Яны і церпяць. Больш таго, яны падтрымліваюць лінію ўрада, гэта людзі-патрыёты яшчэ савецкага выхавання, іх ідэалогія, жыццёвыя прынцыпы ўжо наўрад ці хто зменіць. Але ж не так крыўдна за іх, як шкада. Яны ж павінны былі б мець больш забяспечаную, шчаслівейшую старасць.

Асаблівы наш боль — дзеці, моладзь, будучыня нацыі і краіны. Ужо адно тое, што ў нас сёння больш сірот, чым пасля вайны, не павінна пакідаць нікога з нас у спакоі. А колькі маладых людзей з вышэйшай адукацыяй выкінута сёння за борт жыцця? Хіба не крыўдна, што маладыя людзі згодныя ехаць за мяжу амаль на любых умовах? Асабліва шкада маладых дзяўчат, якія пакідаюць краіну, — гэта ж генафонд нацыі. Праблем тут — непачаты край, у тым ліку і ў заканадаўстве, у прававой абароне нашых грамадзян, якія працуюць за мяжой.

Жанчын у краіне — большасць. Нас, шаноўныя чытачкі "ЛіМа", што пацвердзіў і апошні перапіс, — 53 працэнты. І гэта мы, жанчыны, выбіраем у нашай дзяржаве ўладу. Мы больш даверлівыя, больш паслухмяныя і галасуем больш ахвотна і дружна, чым мужчыны. Давайце ж аб'яднаемся і агульнымі намаганнямі зменім сітуацыю ў краіне. Тут такое неаранае поле! Мы, ваша партыя "Надзея", не маўчым. Але ж несці сёння людзям слова праўды нялёгка, складана. Не надта любяць сёння ў нас праўду. Больш любяць закалыхваць народ казкамі, байкамі пра поспехі і здабыткі. А людзям патрэбна, мо як ніколі раней, праўда. У тым ліку і праўда аб нашым з вамі становішчы.

"Надзея" сярод тых дзевяці апазіцыйных партый, якія пры пасрэдніцтве місіі АБСЕ намагаюцца сказаць, растлумачыць і давесці народу, што ў нашай краіне не ўсё добра, што ў нас ёсць, на жаль, і нямала нявырашаных праблем. "Надзея", у прыватнасці, уздымае праблемы жаночай большасці, і ніхто нас за гэта не павінен асуджаць. Калі мы будзем маўчаць, сітуацыя не зменіцца. Мы, жанчыны, па прыродзе, па сутнасці сваёй схільныя да кампрамісу, згоды, і мы не хацелі б, каб у грамадстве адны супрацьстаялі іншым, каб адны былі за прэзідэнта, скажам, а іншыя — супраць яго. Мы прасілі б кіраўніка дзяржавы пайсці на кампраміс, прыслухацца да голасу апанентаў. Урэшце, справа лідэра — аб'ядноўваць усіх і не дзяліць грамадства па палітычных поглядах.

Многія лічаць, што жанчыну апазіцыянерства не ўпрыгожвае. Маўляў, апазіцыйная жанчына — гэта жанчына агрэсіўная. Але ж гэта байкі! Трэба зазірнуць глыбей, у вытокі. Сённяшняе становішча жанчыны, цяжкая доля, беднасць і безвыходнасць штурхаюць яе ў шэрагі апазіцыі.

А мы ж не закранулі адну з самых балючых для Беларусі праблем, звязаную з чарнобыльскай аварыяй. І зноў жа — найбольш жорстка пацярпелі ад гэтай бяды жанчыны і дзеці. "Надзея" не ўпускае з-пад увагі і гэтую нашу ўсенародную бяду. У 1998 годзе мы правялі міжнародны сімпозіум разам з жанчынамі Японіі. Ён стаў добрым штуршком для нашай далейшай працы ў гэтым кірунку, найперш па ахове здароўя жанчын. Мы выйшлі на страшную праблему — рак малочнай залозы ў жанчын, якая набывае катастрафічныя памеры. У нас многія жанчыны ўвогуле не праходзяць абследавання і ў выніку не лечацца на ранніх стадыях захворвання, а звяртаюцца да ўрачоў тады, калі ўжо позна. Мы распрацавалі спецыяльную праграму барацьбы з гэтым захворваннем і спадзяёмся, што яна будзе ажыццяўляцца.

Ёсць, вядома, нямала і іншых праблем — алкагалізм, рост разводаў, абортаў, смяротнасці, што таксама красамоўна гавораць аб стане нашага грамадства, эканомікі, палітыкі. На жаль, большасць людзей нашых, і найперш жанчыны, знаходзяцца ў стане абыякавасці да ўсяго гэтага, гэта значыць — да саміх сябе. Найначай, сядзіць унутры нас дагэтуль генетычны страх. Няхай цяпер ён мае іншую прыроду, але ён ёсць: страх страціць работу, страх страціць малую, але рэгулярную пенсію, страх за дзяцей, на якіх можа ўпасці бацькаў "грэх", страх, што цябе будуць праследаваць і г. д. Зноў насаджаецца ўстрашальная ідэалогія, атмасфера ўсеагульнага кантролю, высочвання і даносніцтва. А мы маўчым. І гэтым маўчаннем вяртаемся да колішніх сапраўды страшных часін.

А нас жа — большасць (маю на ўвазе перш за ўсё жанчын). І ўжо таму мы не павінны маўчаць. Нам ёсць чаму і ў каго павучыцца. У нас была свая гісторыя, свая дзяржава, правы і культура, была Еўфрасіння Полацкая і Рагнеда. Трэба толькі ўспомніць і пакарыстацца тым, што пакінута нам у спадчыну. І роля жанчын тут — найважнейшая. І кажу я зусім не пра бабскія бунты, якія былі ў гісторыі. Мы якраз і не павінны дапусціць іх, хоць абставіны нас і штурхаюць. Мы павінны мяняць сітуацыю акурат па-жаночы — спакваля, мудра, цярпліва, дамагацца ўсяго ласкаю, дабратою, але й настойлівасцю.

**Запісала М. МІХАЙЛАВА**

ва ўсіх дэталях, якая заўважаецца і ў паказе іншых персанажаў, тут, у абмалёўцы Клавы ўражвае ці не найбольш.

Знешне дзяўчына падалася закаханаму Муню вельмі прывабнай, падобнай на крамяную радысачку, "вось толькі-толькі з градкі, абмытая свежай, са студні, вадою, з гуллівымі пераскокамі сонечных зайчыкаў, з хвосцікам валасоў, зацiснутых гумкаю на самай макаўцы...". Але даволі хутка "радысачка" паказвае свой сапраўдны нораў, пераўтвараючыся *калі не ў здрадліва-горкі яблык, то, як сказана* ў элегіі, "у спахмурнелы грэцкі арэх". Двухсэнсоўна-з'едлівыя яе жарцікі ў халодны зімовы дзень: "А знаеш, калі б ты памёр, ну хоць бы сабе зараз, — я, напэўна б, і не заплакала... Слёзы на холадзе стынуць..."

Не даводзіцца здзіўляцца і таму, што нават з мужавага імя яна пацвельваецца далёка не бяскрыўдна, маўляў, яно "нейкае... халоднае, як жаба". А чаго варта тое, што амаль з першых дзён замужжа Клава зганяе Муню *з агульнага ложка, заяўляючы, што* ўдвух на ім "і цесна, і вузка". І нібыта залішне штурхаецца мужанёк, а ў дадатак і дыхае, як паравоз, — "ад гарачыні і поту звар'яцець можна, на сценку палезці..." Вось што значыць сысціся з нялюбым! А "неўзабаве з'явіўся ў пакоі і трэці сем'янін". Не, не дзіця, нашчадкаў яны не займелі, а "абрыдлы, прыкры для Муні... ложак-раскладанец. Па вечарах ён разгортваўся, лязгаючы жалезным шкілетам, выцягваўся, прыўзнімаючы ўзгалоўе, тупа глядзеў на Муню нейкім дапатопным дыназаўрам-страшыдлам і, здаецца, пытаўся: "Ну што — маеш? Зарабіў ордэр на начлег?.. Кладзіся, кладзіся — са мной не ўпацееш..."

Тое, што жалезная пачвара пад пяром пісьменніка ажывае і пачынае здзекавацца з няшчаснага чалавека, ужо надае размове злавесны сэнс, выразна падкрэсліваючы ўсю меру абсурду, што пануе ў нашым сучасным жыцці. Натуральна, што пасля гэтых і іншых выбрыкаў *сямейная ідылія*, на якую было паспадзяваўся наш герой, пераўтварылася ў прывід, стала надасягальным фантомам. І дажываў Муня свае ўкарочаныя ім самім гады ўжо бабылём, у вясковай хаце, што дасталася яму пасля сястрынай смерці. Вельмі незайздросны чалавечы лёс!..

Надта каларытна выпісаны і Муневы сябры па чарцы і карцёжных гульнях — Корцік і Дэбет, людзі без прозвішчаў, а толькі з мянушкамі. Гэта таксама знак чалавечай абязьдоленасці, прыніжэння асобы, яе занядбанасці. Застаецца пазначанай толькі ранейшая прафесійная прыналежнасць. Корцік атрымаў сваю мянушку з-за колішняй марской службы. Ён быў марак з Балтыкі, звыштэрміновік-добраахвотнік, звольнены за прыхільнасць да алкаголю. А ўвогуле чалавек ён не благі, па-свойму спагадлівы, разумны і часам яшчэ суцяшае сябе марай, што зможа некалі пакрасавацца "на капітанскім мосціку — дзе-небудзь ля чорнай Афрыкі..." Мара зноў жа прывідная, нязбыўная. Але ж трэба чалавеку хоць нечым сябе заспакойваць ды суцяшаць, каб жыццё не станавілася як у Муні, *зусім невыносным*.

Дэбет так названы з той прычыны, што раней працаваў рахункаводам, а цяпер ужо на пенсіі і можа падзарабляць хіба на выпадковых работах, калі яны трапляюцца. Ды ён улягаць у працу не вельмі імкнецца. Па чалавечых параметрах Дэбет яўна саступае і Муню, і Корціку, бо ў адрозненне ад іх зайздрослівы і прыцісклівы, схільны да дробязнага хітравання. Сваю пасаду ён страціў *з-за таго, што аказаўся не ў ладах з тэхнічным* прагрэсам, не змог працаваць на самых простых камп'ютэрах. А падхалімнічаць навучыўся, засвоіў, што самае бяспечнае ў часы фарысейства і крывадушнасці — заўсёды і ва ўсім дэманстратыўна падтрымліваць любы афіцыёз. Напісана пра ўсё гэта не без з'едлівасці і зноў жа з тонкай псіхалагічнай вывеўркай, якая забяспечвае сапраўднасць кожнага Дэбетавага жэста і слова. А мова ў яго шчодра расквечаная жарганізмамі. Гэты лек*січны пласт трапна выкарыстоўваецца* і ў гаворцы іншых персанажаў, асабліва ў Корціка, у якога марскі каларыт проста кідаецца ў вочы.

Наогул, хараство Зуёнкавых элегій у многім трымаецца на багацці і тонкасці іх эмацыянальна насычанай стылістыкі, на ўменні аўтара сцісла, але заўсёды дакладна акрэсліць чалавечы характар персанажа каларытным у сваёй выразнасці, сэнсава і экспрэсіўна ёмістым словам, за майстэрскім валоданнем якім адчуваецца *вопыт працы* ў паэзіі.

Вельмі прывабны Зуёнак і ў эканомных пейзажных штрыхах, у партрэтных і рэчыўных дэталях, трапнасці якіх нярэдка можна пазайздросціць. Вось як падае ён сутычку двух сваіх герояў: "Дэбет выцягваў шыю, лосны ад тлушчу твар звужаўся, збягаючыся да носа, і ўсё адно як пачырванелай дзюбай, сыкаў на Корціка. А той, у сваёй зляналай, мытай-перамытай, што і палоскі ледзь угадваліся, цяльняшцы, выдаваў на перапялёсага шчупака, які ў падлёдную задуху сам сабой выкідваўся з палонкі і на ўсе пашчэнкі хапаў паветра, — здаецца, у Корціка і вушы, быццам жабры, падшавельваліся".

Тонкай настраёвасцю вызначаецца элегія "Куды павёў лапаць". Тут Зуёнак, не хаваючыся за вобраз безыменнага апавядальніка, а непасрэдна ад свайго сапраўднага імя расказвае пра двух вядомых яму сімпатычных вяскоўцаў — старавера Лявона і мужычкі Гупалькі, лёс якіх пазнала моцнае каханне. Яно нарадзілася і захавала сваю трываласць насуперак устойлівай старой традыцыі, якая асуджала блізкія інтымныя стасункі паміж прадстаўнікамі розных рэлігійных канфесій.

Элегія "Куды павёў лапаць" датуецца 1994 годам, "Супоня" — 1999-ым. Палымянцы абяцаюць надрукаваць і новыя элегіі Васіля Зуёнка. Значыць, ён да гэтага жанру прыахвоціўся сур'ёзна. Што ж, у добры час!

**Дзмітрый БУГАЁЎ**

**P.S.**

Пакуль артыкул рыхтаваўся да друку, выйшаў першы нумар "Полымя" за 2000 год, дзе змешчаны яшчэ тры Зуёнкавы элегіі: "Чаравікі для баўэра", "Штаны" і "Дзяцей шкада..." Усе яны напісаны хораша, праніклёна, зноў жа з журботнай настраёвасцю, выкліканай невясёлымі жыццёвымі рэаліямі, што ўзнаўляюцца ў творах. Але "Штаны" вылучаюцца асабліва шчымлівым гучаннем. Пачатыя яны з гумарам, які паўнаўладна гучыць на цэлым шэрагу старонак, а завяршаныя на вельмі балючай трагічнай ноце. Так асэнсоўваецца горкі лёс добрага вясковага хлопца Хомкі, які памірае, не пакінуўшы нашчадкаў: ягоную мужчынскую сілу, а потым і жыццё няўмольна з'ела радыяцыя, атрыманая ў час службы ў ракетных войсках. Праклятае, якое пасля Чарнобыля абрынулася на цэлы народ, ужо напаткала шмат беларусаў і працягвае забіраць усё новыя ахвяры... Адсюль і асаблівая гаркота фінальных акордаў гэтай проста выдатнай элегіі...

**Дз. Б.**

КНІГАРНЯ

# Падарожжа ў мінулае

З захапленнем разгарнула гэтую надзвычай прыгожа выдадзеную кніжку. І — цуд! — уражанне чысціні, святочнасці не знікла, хіба ўзмацнілася. Раю кожнаму зрабіць аднойчы сабе ў жыцці незвычайны дзень: пазнаёміцца з "Абраннікамі вечнасці". Так узнёсла, паэтычна аўтар назваў герояў свайго твора — Францішка Скарыну і Міхаіла Агінскага. Нашых знакамітых землякоў.

Як сказана ў анатацыі, кніга складаецца з двух раздзелаў. Першы з іх на беларускай мове, другі — на рускай. Раздзел "Подзвіг Скарыны" — аб адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў Падуанскім універсітэце ў гонар заснавальніка ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Якраз у Падуі Ф. Скарына вытрымаў экзамен на званне доктара медыцыны. А раздзел "Полонез надежды" прысвечаны ўшанаванню памяці кампазітара М. Агінскага ў Фларэнцыі, дзе ён пахаваны ў пантэоне Санта-Крочэ.

Уражвае спалучэнне глыбокай тэарэтычна-гістарычнай падрыхтоўкі і займальнасці. Кнігі падобнага жанру рэдка ўдаецца напісаць цікава. У Пятра Краўчанкі, грамадска-палітычнага дзеяча, вучонага, гэта атрымалася.

З "Абраннікаў вечнасці" я даведалася аб тым, што першыя гады незалежнасці Рэспублікі Беларусь былі адзначаны змаганнем за павышэнне прэстыжу нашай краіны за мяжой. Важным крокам у гэтым накірунку з'явілася аднаўленне працяглых і цесных ранейшых дыпламатычных і культурных кантактаў з Італіяй. Тагачасны міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка марыў аб усхваленні выдатных прадстаўнікоў беларускага народа Ф. Скарыны і М. Агінскага, усё зрабіў дзеля таго, каб гэта спраўдзілася. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Італьянскай Рэспублікі ва Украіне Джанлука Берцінета прыгадвае, што копію падуанскай мемарыяльнай дошкі Ф. Скарыну ён павесіў за свой кошт на будынку пасольства Італіі ў Мінску. У сувязі ж з асобай М. Агінскага Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол успамінае яшчэ адно імя — аўтара бронзавых дошак у яго гонар, як і ў гонар Ф. Скарыны, "Маладога і шматабяцаючага скульптара Валерыя Янушкевіча".

Але вернемся ў больш далёкае мінулае, калі ў Падую, паводле архіўных дакументаў, "прыбыў вельмі вучоны малады чалавек, доктар свабодных навук, бедны, родам з надзвычай далёкіх краёў... каб узвялічыць славу і бляск Падуі... Вышэйзгаданы малады чалавек носіць імя Францыск, ён сын нябожчыка Лукі з Полацка, русін". Італія ветла прыняла Ф. Скарыну: ён быў вызвалены ад непасільнай платы за экзамен на званне доктара медыцыны як унікальны чалавек, *галоўнымі рысамі характару якога*, паводле П. Краўчанкі, былі: "самаахвярнасць, імкненне да кансалідацыі беларускай нацыянальнасці, апантанасць у працы, рэвалюцыйнасць, інтэлігентнасць, нацыянальны характар дзейнасці, асветніцтва". Словам, святы прах Францішка Скарыны варты Нацыянальнага Пантэона тых, хто ўяўляе нашы сумленне і гонар. А ён, верыцца, некалі ўсё ж будзе створаны. Трэба "не забываць пра продкаў, пра свае чалавечыя карані, пра сваю чалавечую годнасць, пра тое, што мы мацнеем як народ" — такую думку вылучае тут аўтар у якасці асноўнай.

Другі раздзел кнігі прысвечаны М. Агінскаму. Коратка спыняючыся на асноўных падзеях жыцця і творчасці гэтага вядомага чалавека, П. Краўчанка акцэнтуе ўвагу чытача на тым факце, што сам М. Агінскі "неаднойчы называў сябе ліцвінам, г. зн. сынам гэтай зямлі, мясцовым, па-беларуску — "тутэйшым". У пачатку жыцця яму шанцавала ва ўсім: у 23 гады ён быў дэпутатам Сейма Польшчы, у 28 — вялікім падскарбіем (міністрам фінансаў) Літвы, у 35 — пасалом у Англіі і Галандыі, які атрымліваў вышэйшыя ўзнагароды дзяржаў з рук караля Станіслава Аўгуста II... М. Агінскі рана стаў вядомы не толькі як палітык, але і як музыкант: "не было ніводнай еўрапейскай сталіцы, ніводнай вялікасвецкай гасцёўні, дзе б не гучалі боскія акорды паланеза ля мінор, які толькі пасля паражэння паўстання 1830—1831 гг., калі зніклі ўсе надзеі на адраджэнне Літвы, атрымаў назву "Развітанне з Радзімай".

Аднак М. Агінскі зведаў і нягоды: эміграцыю, жабрацкае існаванне, адчай, сум, бездзейнасць. Ён актыўна ўдзельнічаў у паўстанні 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі, а потым вымушаны быў уцякаць у Італію. У 1802 г. М. Агінскі, былы прыхільнік Напалеона, прысягае на вернасць імператару Аляксандру І. А ў 1822 г., ужо расчараваны ў расійскім імператары, ён зноў за мяжой. Быў жанаты з італьянкай, меў чацвёра дзяцей, *напісаў мемуары*. Пра іх П. Краўчанка заўважае: "Парадаксальна, але кніга, якой зачытвалася ўся Еўропа, якую А. Міцкевіч рэкамендаваў выдатнаму французскаму гісторыку Ж. Мішле, калі той працаваў над сваёй класічнай працай "Народ", да гэтага часу невядомая ў нас".

У кнізе П. Краўчанкі "Абраннікі вечнасці" тэкст падаецца, акрамя беларускай і рускай, яшчэ і на англійскай, італьянскай мовах. Гэта, зразумела, пашырае кола магчымых чытачоў. Верыцца, што "Абраннікі вечнасці" прыцягнуць увагу гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, культуролагаў — усіх, хто цікавіцца роляй славутых людзей у жыцці нашай Бацькаўшчыны.

**Святлана ЯВАР**

---

*П. К. Краўчанка. Абраннікі вечнасці. Мн., "Беларусь", 1999.*

ЧАСОПІСЫ

# "Полымя", N 12

У апошнім за мінулы год нумары старэйшыны літаратурна-мастацкіх выданняў краіны змешчаны вершы А. Пісьмянкова, М. Аўрамчыка, М. Арочкі, аповесць І. Шамякіна "Пошукі прытулку", апавяданне А. Вараноўіча "Першыя замаразкі". Паэму К. Шэрмана "Накірунку свету" з іспанскай мовы пераклаў Р. Барадулін. Прапануюцца ўспаміны М. Амельчанкі пра У. Караткевіча "Кароль духоўнасці" (уступнае слова С. Законнікава, пераклад з рускай А. Урбана). У пераўвасабленні вяртаецца А. Семяновіч — "Фрагменты майго жыцця". М. Бусько ("Чалавек ад плуга і касы") расказвае пра паэта А. Мілюця. Пра тое, як дзейнічалі ваяўнічыя атэісты, можна даведацца з артыкула А. Заеркі "Растаптаная вера". Удзел яўрэяў у барацьбе з фашызмам — тэма артыкула Л. Смілавіцкага "Восемсот дзён барацьбы і болю" (уступнае слова Э. Іофе). Цікавыя звесткі прыводзяцца ў артыкуле Р. Гарэцкага "Пра карысныя выкапні Беларусі". Пераемнасць творчых традыцый разглядае Г. Тычка ("Янка Купала і Уладыслаў Сыракомля"). Л. Савік ("Дрэва надзеі") рэцэнзуе раман В. Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў". Д. Паўлавец ("На шляху да поўнага слоўніка беларускай мовы") дзеліцца ўражаннямі ад кнігі У. Навічэнкі "Вопыт літаратурна-дыялектнага слоўніка беларускай мовы".

# "Маладосць", N 1

З вершамі выступаюць А. Чубат, Т. Бондар, А. Бадак, В. Кустава, В. Ракаў, А. Майсеенка, М. Аўрамчык. Змешчаны апавяданні А. Давыдава, А. Казлова, Л. Калодзежнага, пачатак рамана-дакумента А. Пашкевіча "І дам табе вянок жыцця". У сувязі з 80-годдзем М. Аўрамчыка Г. Далідовіч выступае з артыкулам "...І Мікола Аўрамчык". Увазе чытача прапануецца артыкул акадэміка Міжнароднай кадравай акадэміі, прафесара, доктара паліталогіі, рэктара Гуманітарна-эканамічнага недзяржаўнага інстытута А. Алпеева "Інстытут крочыць у будучыню". Друкуюцца працяг "Нататкаў пра бадзянні ў 1924—1929 гады" М. Улашчыка, артыкул І. Белавуса "Званы над Белай Руссю", нарыс В. Ткачова "Траўматалогія". Пра жыццё і творчасць Л. Дайнекі ў сувязі з яго 60-годдзем разважае В. Гардзей — "...Мецы сэрцы ў грудзях маладых". Пытанні моўнага майстэрства ў полі зроку А. Наркевіча — "Сякерай не высячаш". А. Карлюкевіч ("Падарожжа, вечнае падарожжа па жыцці") рэцэнзуе кнігу Л. Адамовіч "Кветкі самотнай князёўны".

людзьмі, за прыродай, перапляценне сваіх думак з народнай мудрасцю. Гэта споведзь душы, напоўненай боскасцю, гэта пошук сябе, гэта знаходкі, аб якіх аўтару так хочацца расказаць іншым. У кніжцы няма звышраманмантычных радкоў, надуманасці, як гэта часта бывае ў занадта "таленавітых" пачаткоўцаў, тут усё проста, стрымана і — душэўна. Тут сама натуральнасць, а не штучная, прыдуманая прыгажосць, ашчадныя штрышкі з ашчадным роздумам. Хоць бы вось такое:

*"Прыехалі ў вёску ў чарговы раз, а дзеці адразу пад яблыню. Яна ранняя, і сакаўныя яблыкі пахнуць мёдам. Бегалі дзеці каля яе, гулялі, хаваліся ў аўвісных аж да зямлі галінках. Толькі-толькі ад'ехалі ад хаты, як дрэва паваліласся ў бульбоўнік. Пераламалася. Не вытрымала цяжару. Збіраючы недаспелыя яблыкі, маці плакала, шкадавала, як чалавека, з якім пражыла разам доўгія гады, шкадавала, як карміцельку, як часцінку сваёй маладосці. Сведка шчаслівых і незабыўных год адышла ў нябыт.*

*Так і мы. Не ведаем, які год, дзень і час стане для нас апошнім..."*

Ці яшчэ:

*"Пустыя, закінутыя хаты ў беларускіх вёсках — не дзіва. Адышлі на вечны спачын гаспадары, а хаты ўсё спадзяюцца, што іх старасць упрыгожаць новыя шпалеры, льняныя абрусы, узорыстыя фіранкі і сагрэе прамерзлыя ад холаду і адзіноты вуглы выратавальнае святло. Але...*

*Скрыпяць падгнілыя веснічкі. Струхлелі рамы. Выбіты шыбы, і па некалі ўтульных хатах гуляюць скразнякі, вымятаючы з іх апошнія рэшткі чалавечай спагады, дабрыні і сумлення, бушуюць скразнякі ў людскіх душах.*

Засвяціся ж Божай іскрай любові, святло ў чалавечай душы!"

Няма ў гэтых абразках нейкіх асаблівых літаратурных прыёмаў, незвычайных вобразаў, але яны кранаюць. Ёсць у іх нейкі магнетызм. Кажуць, у фотаздымках прысутнічае энергія тых людзей, якіх сфатаграфавалі. Так і ў творах Г. Сутулы прысутнічае нябачная аўра, энергія непрыдуманага жыцця.

Я пакрывіў бы душой, каб не сказаў, што не ўсё ў кніжцы ідэальна. Мне здаецца, дарэмна ўключаны ў невялікую па аб'ёме кніжку вершаваныя творы. Іх зусім мала, і цяжка меркаваць пра здольнасці аўтара ў гэтым жанры. Тое ж самае тычыцца і невялічкай падборкі "Гавораць дзеці". Яна як бы "не з той оперы". Гэта размывае агульнае ўражанне, збівае пульс кніжкі.

**Янусь МАЛЕЦ**

Леанід КАЛОДЗЕЖНЫ

# ПАМІНАЛЬНАЯ ВЯЧЭРА



АПАВЯДАННЕ

як патрэсквала палахліва-трапяткое полымя свечкі, як, адмерваючы секунды, сярод прасценка чэкаў абцяжараны гірай-шышкай дапатопны, з выявамі трох мядзведзяў на абкарошчаным іржой цыферблаце гадзіннік, як пад столлю санліва зумкала акрыялая, абуджаная па-летняму шчодрай цеплынёй, што патыхала ад печы, гламаздаватая муха.

А пасля зноў прагучаў Марынін голас:

— Зараз — сядайце, памянём нябожчыцу.

Цішыня імгненна парушылася. Зарыпелі лаўкі, крэслы, задзугалі табурэткі, заляскалі відэльцы. Потым, ледзь усе прычасціліся салодкай пярловай кашай, задзынкалі бутэлькі, зазвінелі кілішкі і шклянкі.

Мала-памалу галасы бралі ўладу над усімі іншымі гукамі, паглыналі іх — спарнелі, крэплі. Нарэшце яны пераraслі ў суцэльны гул. Праз яго прарываліся вясёлыя выкрыкі, узвіваўся бестурботны смех. Падагрэтыя людзі неўпрыкмет забыліся пра Куліну: ажылі, развязалі языкі. А Кулінін Мікола, дык той наогул здурнеў — аблакаціўшыся, набычыў галаву, наталопіў прамцом асавелыя бельмакі і зацягнуў:

***Городские цветы, городские цветы,***
***Навсегда завладели вы сердцем моим...***

На Міколу зацыкалі: Апомніся! Суйміся!

Падбегла з чырвонымі вачыма, з распухлым ад слёз тварам сястра Сяргеевай жонкі Валя, кутырхнула спевака, узмалілася:

— Не трэба, братачка! Што ты, што ты!

Той сярдзіта адштурхнуў назолу, наравіста матлянуў чубком, завыў яшчэ тужлівей:

***Городские цветы, городские цветы...***

Спачатку як бы незнарок, а пасля смялей аб Сяргеевы грудзі цярнулася плечуком суседка. Сяргей скасавурыўся. Позіркі іх сустрэліся. Мігатлівыя суседчыны веі трымкнулі, расцяліся, адкрываючы між верхніх зубоў шчылінку, пульхнаватыя вусны.

— Кім вы даводзіцеся цётцы Куліне? — відочна набіваючыся на размову, спытала маладзіца.

— Раднёй, — насупіў Якуцёнак бровы. — Зяцем, — не надта ахвотна адказаў ёй і тут жа падумаў пра яе: "А нішто — хараша штучка!"

— Валін муж?

— Ага.

— Цікава, чаму дасюль не заўважала такога дзядзечку? — не то дзівілася, не то чыніла дазнанне яна.

— Рэдкі я ў вас госць, — як бы не зважаючы на закід прамовіў Сяргей. — Гады ў рады прыязджаю. Прызнацца, і мне не даводзілася бачыць такую цётачку. Гарадская?

— Не, мясцовая.

Троху-патроху — пазнаёміліся. Клікалі яе Рэняй, рабіла загадчыцай магазіна.

Чым больш гаманілі, тым цясней Рэня тулілася да Сяргея.

— Мужа не баішся? — знячэўку шапнуў ёй. — Не пашчыкоча твое рэбры?

— Можаш не хваляваццa. Збавілася ад ахламона. Лячыцца адправіла. Два месяцы няма дома алканаўта.

Тугая і гладкая, пад капронам Рэніна лытка даткнулася да Сяргеевай нагі. Якуцёнак зладзеявата апусціў пад абрус пяцярню, знайшоў круглае калена суседкі і абшчаперыў яго. Яно торгнулася, ліхаманкава затрэслася. Гэтая дрыготка міжвольна перадалася ў Сяргеевы пальцы, і ён нервова заперабіраў імі. Рэню скаланула, яна перасмыкнулася ўсім целам, прыкусіла губу.

Адчуваючы, як прылівае шалёная кроў, як глухі гул заканапачвае вушы, Якуцёнак здушана прахрыпеў:

— Выйдзем. Спачатку — я, пазней — ты...

— Добра, — улавіў слых.

Пасігаў рашуча.

— Куды? — перастрэла ля парога з місай катлет Валя.

— Праветруся. Пакуру...

На ганку Сяргей паляпаў па кішэнях, вышмаргнуў карабок, цыгарэты. Выняў адну, чыркнуў запалкай, пыхнуў ядавітым дымком.

У асвечанай сляпучай лямпачкай дзвярной пройме, па-кашачаму мякка ступаючы, паказалася Рэня.

— Пайшлі! — моцна, аж хруснулі суставы, сцяў ейнае запясце і шпурнуў у поўную дажджавой вады бочку пад капяжом іскрысты бычок.

Асцярожна, каб не напароцца ў чорнай са святла цемры на перашкоду, ён павёў Рэню паўз аголеныя кусты парэчак. Амаль вобмацкам завалок за разгатай ігрушай пад шыферную паветку з атаўным сенам. Але да сена не дайшлі — натыкнуліся на скрынкі з яблыкамі, на храбусткія мяшкі з качанамі капусты. Сяргей нецярпліва абрынуў на іх Рэню, няўрымсліва завіждаўся над ёй.

— Стой... не спяшайся... — гулліва прабуркавала яна.

Нейкі момант Рэня пасопвала, варушылася, прынароўлівалася ямчэй, тузанулася, далікатна адштурхнула Якуцёнка:

— Пачакай... Дрэнна так...

...Першым вярнуўся за стол Сяргей. Крыху памарудзіўшы, заявілася і Рэня. Аднак не пайшла на сваё месца, а сціпла прымасцілася насупраць. У кудзерках ейнага бухматага, досыць памятага начосу заблыталася і пагойдвалася мяцёлка мятліка.

Па-ранейшаму ныў, звешваючы над талеркай з памідорамі сваю загагулістую нюхаўку, ці не ў дзесяты раз цягнуў бясконцае Мікола:

***Городские цветы, городские цветы...***

Захмялелае зборышча, бы гэта былі не хаўтуры, а звычайная гасціна, тлумна бурболіла. Хтосьці, быццам яму пақазытвалі пяткі, дурасліва ўзрагатваў. Якісьці ўшчацінены вахлакаваты дзяцюк пішчом чапіўся да цельпукаватага мурластага мужчыны, пагражаў папсаваць яму "будку". За адасобленай шафкай ці то спрачаліся, ці то сварыліся дзве кабеты — адна з распатланымі сівымі касмылямі, а другая вірлавокая, як сава. На рагу стала шамкаў бяззубым, глыбокім, быццам цёмнае падпечча, ротам, сам з сабой прастарэкаў дзед-смаржок:

— Гіне Расея, прападае ні за шчопаць табакі. Пагана Ельцыну. Не дазваляюць яму развінуцца. Паўсюль торкаюць палкі ў колы. Выпендрываюцца губернатары, мэры-шмэры розныя. Даўно б след прыціснуць к пазногцю гэтых фантамасаў!..

Сілячыся навесці парадак, сноўдала сюд-туд цётка Марына, узмахвала рукамі, але неўзабаве страціла надзею дамагчыся чагосьці, згорбілася, паклыпала ў сенцы.

Хвілін колькі Сяргей дранцвеў. Затым схамянуўся, падставіў дзве чаркі, набулькаў у іх гарэлкі. Адну паслужліва падаў Рэні, другую ўзяў сам. Хацеў чокнуцца з суседкай, ды спахапіўся, разгублена кракнуў, без цырымоній асушыў і, не закусваючы, сцяў вусны...

Іван ПЯШКО

# ДОЖДЖ З МОКРЫМ СНЕГАМ



АПАВЯДАННЕ

холад не так моцна адчуваўся, а выбраўся на ўскраіну пасёлка — давялося паскорыць крок. Вецер так і сячэ, так і сячэ, валіць з ног. Быў бы толькі вецер, а то яшчэ і мокры снег. Не снег нават, а крупы, — колкія, на шрот падобныя. Дурань, трэба было кальсоны надзець, у такое надвор'е сапраўды сабаку не выгнаць на вуліцу. З другога боку, яно і добра. Ніхто не ўбачыць яго ля цыстэрны.

Ва ўнутранай кішэні курткі загорнуты ў газету развадны ключ. Ключом ён адкруціць гайкі, што мацуюць покрыўку на гарлавіне цыстэрны, а далей, як кажуць, справа тэхнікі.

За Герасімовічам беглі санкі. На іх, загорнутая ў мяшок, ляжала поліэтыленавая каністра з-пад ядахімікатаў. Саначкі старыя, але груз вытрымаюць. Куплялі некалі Юру, сыну. Ніколі не думаў: слабыя на выгляд сані дажывуць да ягонага вяселля. Каністру ён пазычыў у знаёмага шафёра. Сорак літраў бензіну ўваходзіць у празрыстую поліэтыленавую каністру. Пад два мільёны заробіць за ноч, калі ўдасца адкруціць гайкі. Варта і памерзнуць. Хаця б не надта паржавелі тыя гайкі... Ведама ж, цыстэрна на адкрытым месцы, пад дажджом і снегам. Сорак літраў... Што гэта значыць для салідная арганізацыі? Дробязь! Сват працуе там кабельшчыкам, нядрэнную зарплату прыносіць штомесяц. А за што? Банкаўская прыбіральшчыца, казалі, за сем мільёнаў атрымлівае. Яшчэ ў пашане ў новай улады міліцыя, суд, пракуратура. І сама ўлада мае добрыя грошы...

Цёмна на вуліцах і завулках. Неба быццам змяшалася з зямлёй. Не разгледзець і гадзінніка на руцэ. Зрэшты, цяпер гадзіннік і не трэба. За гадзіну павінен справіцца. Вось, здаецца, спуск у лагчыну, там масток, а за ім — і драцяная агароджа. Хаця б усё было добра. Эх, незайздросная доля злодзея. А што рабіць? Так, цяжка стала. Галеча можа даканаць чалавека. Куды ні зойдзеш, ці на чаргу наткнешся, ці на тое, што не купіш. Пасля вайны чэргі былі толькі па хлеб. Бульбы хапала, марожанай траскі ў крамы завозілі шмат, камсы — яшчэ болей, селядцоў у бочках прывозілі. Наварыць маці бульбы, паставіць на стол — разварыстую, без нітратаў, з селядцом ці камсой, еш — ад пуза. Дажыліся, селядзец даражэй за мяса...

Ён ведаў, што будзе рабіць за агароджай, у думках рыхтаваўся да гэтага не раз. Праходзіў некалькі разоў паўз плот, быў і на гэтым тыдні, прыкідваў, што і як. Перш за ўсё непрыкметна шусне праз пpаржавелую сетку ў двор, ля буданчыка зніме са сцяны лесвіцу, узбярэцца па ёй да гарлавіны, адкруціць гайкі, адсуне покрыўку, апусціць вядзерца. Калі ўсё будзе добра, зробіць яшчэ рэйс. Зімовая ноч вялікая, бензін выльe ў старую выварку. Мець сёння сотню літраў бензіну — гэта ўжо нешта! Разам з каністрай ляжала ў мяшку і некалькі ключоў — на ўсякі выпадак, калі разводным нічога не зробіць. У мяшку і самаробнае вядзерца — некалі жонка прынесла са сталовай сямілітровую бляшанку з-пад варэння. Вясной у гэтае вядзерца добра было спускаць бярозавы сок, але за два апошнія гады вядзерца здорава папсавала ржа, для соку посуд стаў непрыдатны.

Двор асвятляла адзіная электралямпачка пад ліхтаром; яго здорава гайдала ветрам, светлы круг пад невысокім бетонным слупом быў быццам жывы. Ля цыстэрны даволі цёмна, і гэта ўзрадавала Герасімовіча.

Нікога не сустрэў па дарозе, нікога не згледзеў і ў двары за драцяной агароджай. Падышоў Герасімовіч да сеткі ў тым месцы, дзе раней агледзеў дзірку, пастаяў крыху і, сагнуўшыся, шуснуў уніз.

Санкі ён пакінуў ля агароджы, дастаў з мяшка вядзерца, ключы, і ўнутрана сцяўшыся — што вось-вось яго можа нехта аклікнуць, — пайшоў да будана.

Лесвіца была на месцы. Аказалася яна надзіва лёгкай. Вядома — ляжала пад страхой, дажджамі яе там не даставала. А галоўнае — зроблена няйначай з асіны. Сухая асіна — самая лёгкая драўніна, самая трывалая. Гаспадарлівыя гэтыя электрыкі.

Першая гайка падалася лёгка, і ён узрадаваўся добраму пачатку. Пасля некалькіх паваротаў можна адкручваць без ключа, пальцамі. Болей часу павалаводзіўся з другой і пятай. Гаек аказалася нават меней, чым разлічваў, — дзесяткі два. Праз хвілін пятнаццаць ён клаў на стылае жалеза апошнюю. Покрыўку з тоўстага ліставога жалеза асцярожна адсунуў убок і ўзяўся за вядзерца. Вяроўкі, аднак, не хапіла — мала было паліва ў цыстэрне, і Герасімовіч зняў з пояса дзягу, надвязаў вяроўку.

"Дурань, — аблаяў сам сябе. — Ну як мог забыцца і не прывязаць да вядзерца які-небудзь груз? Кансервавая бляшанка шлёпнулася і ляжыць на баку..."

Але і прывязанай дзягі было малавата, таму Герасімовіч нахіліўся як мог над чорнай гарлавінай.

...Свядомасць ён страціў раптоўна. Пары бензіну, што сабраліся ў амаль пустой цыстэрне, шуганулі ўверх, і некалькіх глыткоў было дастаткова, каб знепрытомнець.

Раніцай, як толькі развіднела, загадчык паліўнага склада электрасетак Антон Вераціла прыйшоў да цыстэрны, адамкнуў замок на вентылі і згледзеў лесвіцу, што звычайна вісела на сцяне будана. Зацікавіўшыся, падняўся па ёй. Покрыўка цыстэрны была адсунута, і Вераціла ўсё зразумеў. Асцярожна, каб не пакаўзнуцца, зазірнуў уніз. Спачатку ўбачыў вядзерца, побач — нейкую цёмную пляму. Прыгледзеўшыся, зразумеў, што гэта чалавек.

Усвядоміўшы, што тут адбылося, Вераціла, узрушаны, хуценька спусціўся ўніз. Якраз на запраўку пад'ехала лятучка, спынілася за некалькі крокаў. Брыгада электрыкаў сядзела ў машыне, людзі не хацелі выходзіць на мароз, і тады Вераціла падышоў, адкрыў дзверы і суха паведаміў:

— У цыстэрне плавае чалавек.

— А што ён там робіць?

— Мёртвы.

Па чарзе ўзбіраліся наверх, зазіралі... Па чарзе ўзбіраліся наверх, заглядвалі. Нехта зверху ўбачыў саначкі ля агароджы.

— Бач, бензін спатрэбіўся.

— Ну во, напіўся. Пад завязку.

Пазванілі ў міліцыю, і праз пятнаццаць хвілін у двары спынілася міліцэйская машына, з яе выйшлі міліцыянеры, пад маўклівымі позіркамі электрыкаў паволі ішлі да цыстэрны. Было сярод людзей у форме і некалькі чалавек у цывільным.

Бусакамі паднялі тапельца да гарлавіны, а далей нічога не выходзіла: раскінутыя рукі не пралазілі.

— Прыйдзецца ламаць, — сказаў міліцэйскі капітан.

— Ну, адразу ламаць... І так, бедалагу, хапіла...

— Цяпер усё роўна. А што рабіць? Дай параду.

Папрасіўшы прабачэння ў мёртвага, ломам перабілі руку, і толькі пасля гэтага чалавека дасталі з цыстэрны, апусцілі на снег.

Над трупам схіліўся кабельшчык Хаўратовіч, доўга глядзеў у твар. Да яго падышоў Вераціла.

— Пазнаў хіба?

— Ага. Герасімовіч гэта. Сват мой. Праз месяц вяселле меўся справіць сыну.

Таму суполка "Пагоня" яшчэ гадоў дзесяць таму назад выступіла, каб скасаваць званні. І прагаласавалі, дарэчы, на з'ездзе мастакоў, але адразу забыліся і зноў штогод з запалам дзеляць гэтыя прывілеі.

**— Пэўны час цябе многа папракалі ў залішняй заліпатызаванасці, заангажаванасці на нацыянальнай тэматыцы. Ты гэтым ганарышся ці імкнуўся адвесці ад сябе гэтыя абвінавачванні?**

— Я гэтым ганаруся. Канешне, заангажаванасць была і ёсць. Але ў што яна вылілася? У канцы сямідзесятых — у васьмідзесятых я стварыў цыкл "Дзеячы гісторыі і культуры Беларусі". Хто ў тыя часы (1980 год, тысячагоддзе Русі) напісаў Міколу Гусоўскага, Рагнеду. Трошкі пазней я напісаў Івана Луцкевіча, які заснаваў "Нашу Ніву" і друкаваў Купалу, фактычна адкрыў Багдановіча; Вітаўта. Ёсць у мяне партрэт Міколы Ермаловіча, які загінуў, ідучы ў Чырвоны касцёл, дзе я якраз дамаўляўся з Ул. Завальнюком паказаць экспазіцыю цыкла "Дзеячаў...". І я хачу, каб на яе адкрыцці 30 сакавіка цэнтральным партрэтам быў партрэт нашага вядомага гісторыка. Я ішоў адным з першых па гэтым шляху і гэта мой гонар. Мы былі ў пэўным плане дысідэнтамі і не толькі я адзін. Валодзя Крукоўскі, напрыклад, ствараў плакаты і яны з цяжкасцю праходзілі на выстаўкамах. У мяне ёсць дзённікавы запіс, калі на адным са з'ездаў мастакоў выступаў Паплаўскі з крытыкай Басалыгі, што "вусатым дзядзькам няма чаго рабіць, яны малююць кветачкі і там нейкія замкі, цэрквы, касцёлы".

У гэты час многа для самасвядомасці беларусаў зрабілі выпускнікі кафедры графікі. Графіка была звязана з беларускай літаратурай і гэта дазваляла выкарыстоўваць нацыянальную тэматыку. Калі стаў загадчыкам кафедры Васіль Шарангові́ч, кафедра трымала вельмі моцную лінію беларускага мастацтва, адтуль выходзілі не толькі мастакі-прафесійнікі, але найперш — грамадзяне. А Васіль меў непрыемнасці. Гэту лінію працягвалі на пасадзе загадчыкаў і яго вучні.

На жаль, на кафедры жывапісу, калі я яе заканчваў, нацыянальная тэматыка была не ў пашане. Мне, напрыклад, на дыпломную работу зацвердзілі не эскіз "Гукання вясны", а "Аўтазаводцаў". І дзякуй Богу, думаю сёння. Я напісаў "Аўтазаводцаў", яна аказалася някепскай працай, была на Усесаюзнай выставе дыпломаў у Манежы. Як казаў дыпломнікам-троечнікам Леанід Шчамялёў, калі ён бываў у Акадэміі мастацтваў старшынёй дыпломнай камісіі: "Вы не надта перажывайце, мой дыплом таксама ацанілі на тройку, і ён цяпер знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі". Мае "Аўтазаводцы" ў сховах акадэміі, але пасля заканчэння я адразу пачаў пісаць "Гуканне вясны" і яна ўжо была набыта музеем.

**— Ты згадаў сваіх сяброў, з якімі ішоў па шляху адраджэнства. Але здаецца, што ты першым адышоў ад прамалінейнасці і спрошчанасці ў тэматыцы работ, прысвечаных нацыянальнай ідэі...**

— Мяне заўсёды насцярожвалі папрокі, што мы нацыянальную тэматыку хочам уціснуць у старыя формы і займаемся рэстаўрацыяй таго, што ў беларускай гісторыі не існавала. Але мяне не ў апошнюю чаргу хвалявала форма нашых твораў, бо мы павінны заўсёды заставацца сучаснымі мастакамі і гаварыць сённяшняй мовай. Гэтаму нас яшчэ камуністы вучылі: мастацтва павінна быць нацыянальнае па форме... Казімір Малевіч казаў, што форма і ёсць змест. І магу засведчыць, што пры адсутнасці адпрацаванай формы карціны разбураецца любая звышнацыянальная тэматыка. Трагічна загінуў, лічу, абсалютна геніяльны ў гэтым плане мастак Мікола Селяшчук. У яго форма надавала моцы зместу. А сваіх сяброў Яўгена Куліка і Міколу Купаву люблю і паважаю за тое, што ў іх лапідарнасці ёсць знакавасць, няма шараханняў.

**— Ці падзяляў ты калі-небудзь сваю творчасць на пазачаснае і на "аднадзёнкі", "аднагодкі"?..**

— Баюся толькі спекуляцыі па "надзённасці". Ці ж не рэальна, што менавіта такі "аднадзённы" твор праз пяцьдзесят-сто гадоў будзе цікавы тым, што толькі адзін мастак адгукнуўся на падзею? І Сяроў напісаў "Крывавую нядзелю"... Але ж згадаем Дударанку, які некалі заняў увесь Палац мастацтваў карцінамі на тэму брэжнеўскай "Малай зямлі". Ці напіша ён сёння Чачню? Альбо напісаў бы Савіцкі ў савецкі час Рагнеду замест Леніна, партрэт Высоцкага альбо цыкл на рэлігійную тэматыку? А Ісачоў пры ўсім пры тым пісаў...

**— Алесь, па ўзросце цябе можна аднесці да старэйшага пакалення. Але запалу ў творчасці, маладосці ў пастаці тваёй столькі, што ніхто не ўспрымае твае гады...**

— Люблю ўсё прыгожае, а прыгожае — гэта жанчына, вясна, квеценне. Прыемна быць сярод людзей, гэта надае маладосці, імпэту.

**Гутарыла Наталля ШАРАНГОВІЧ**

УРАЖАННЕ

# Палёты Сяргея Жураўля ў абрысах прывіднае клеткі

## У СПЕКТАКЛІ "БОТЫ НА ТОЎСТАЙ ПАДЭШВЕ" АКЦЁР СТВАРАЕ ЧАТЫРЫ АРЫГІНАЛЬНЫЯ ВОБРАЗЫ

Сяргей Журавель, запрошаны ў антрэпрызу прадзюсерскага цэнтра "Альфа-Радыё" вядомым рэжысёрам Мікалаем Пінігіным, іграе на сцэне і мага-містыка, і турэмнага наглядчыка, і пакаёўку Веру Аляксееўну, і нават... звычайную Калошніцу (скрынку для абутку ў кватэры галоўных герояў дзеі). Менавіта на гэтых вобразах, нібы на моцна збітым падрамніку, напінаецца пругкае палатно інтрыгі.

Вайсковы чыноўнік, былы марскі афіцэр 55-гадовы Плахаў (Уладзімір Мішчанчук) аб'яўляе сваёй жонцы пра намер сысці да другой — маладой і прыгожай 20-гадовай Лізы (Наталля Дуванава). І як бы між іншым заўважае пры гэтым, што ў дзяцінстве ён вельмі хацеў зразумець: як і пра што спяваюць птушкі. Ды вось і цяпер, у сталым узросце, яшчэ гэтага не ведае.

А птушкі ж, мусіць, спяваюць пра любоў і пра свабоду.

І людзі — як птушкі.

Спачатку Сяргей Журавель з'яўляецца на сцэне ў расшитым таямнічымі іерогліфамі халаце моднага экстрасэнса. На вачах публікі "раздуваецца" імідж мага Зяленіна, які "ў ста выпадках са ста" вяртае "заблудших" мужоў у лона кінутай сям'і. У сцэне з жонкай Плахава (Вольга Клебановіч) акцёр віртуозна, з тонкім гумарам і з'едлівым гратэскам "раскрывае перадусім" прыхаваную сутнасць самога "экстрасэнса" — былога турэмнага наглядчыка. Пры гэтым Журавель так па-майстэрску робіць пасы рукамі, інтрыгуе кліентку вучонымі тэрмінамі, выклікае на давер падрабязнасцямі свайго жыцця. Плахаў і яго жонка з таго пакалення, якое жыло сурова, чыё асабістае жыццё было пад пільным наглядам сістэмы (усюдыісных парткамаў і прафкамаў). Але і тады яны ўсё роўна былі шчаслівымі, бо кахалі і былі маладымі. Свежае дыханне таго часу прарываецца ў цяперашнюю жыццёвую клетку настальгічнымі мелодыямі тых гадоў. Урэшце на сцэне з'яўляецца і рэальная жалезная клетка-камера з Плахавым унутры. І гэтай "птушачкай", якая захацела свабоды і любові, паўнаўладна распараджаецца (са згоды жонкі...) апрануты ў гімнасцёрку і боты, наглядчык Спіцын.

Праз знешнюю слізкасць і сквапнасць Спіцына час ад часу спрабуюць вырвацца вонкі (як птушаняты з клеткі) ягоныя дзіцячыя болі і крыўды. Паслядоўнік дактрыны Захара Мазоха гаспадарыць ля клеткі з Плахавым жвава, эксцэнтрычна, з гумарам абыгрывае побытавыя сітуацыі. Да таго ж з душой грае на акардэоне і нават... на раялі які стаіць "у кустах" — за клеткай-камерай. Адметнай дэталлю сцэны з'яўляецца турэмная вышка, уладкаваная на колах дзіцячага веласіпеда. Гэткая паяднанасць у адным жалезным арганізме дзіцячай гуллівасці і жорсткасці дарослага, гэткая нездаровая "мутантнасць" псіхікі Спіцына. І перамяшчаецца вышка не свабодна, а па жалезным рэйкавым паўкрузе: бо няма сапраўднай свабоды там, дзе ёсць жорсткасць і насілле.

Толькі акцёру-віртуозу, акцёру-аркестру, якім і з'яўляецца Сяргей Журавель, пад сілу перадаць усе тонкія нюансы вобраза наглядчыка, усю яго глыбіню і неадназначнасць, дзе з-пад звярнасці праглядвае грымаса скалечанага дзяцінства. Па сутнасці, у гэтым няшчасным чалавеку можна разглядзець і ўсю сістэму насілля над асобай. І грамадскасць, і дзяржава ствараюць гэтую сістэму як быццам бы дзеля нашай жа карысці. Але што ёсць карысць? І дзеля якой (і чыёй) карысці патрэбны грамадству безгалосыя шэрыя птушкі ў чорна-белых арыштанцкіх робах?

Аднаго поля ягады (нароўні з магам ды наглядчыкам) і наступныя два жураўлёвыя вобразы — пакаёўкі Веры Аляксееўны. Пакаёўка — гэта прыслуга пры клетцы сям'і Плахавых, пажылая жанчына. Яна — ахвяра мужчынскага эгаізму. Будучы раз падманутай, Вера Аляксееўна страціла веру ў сапраўднае каханне на ўсё жыццё. Яна закасцянела ў нянавісці да мужчын і таму сама амужланілася (невыпадкова ж носіць пад доўгай мяшкападобнай сукенкай спіцынскія хромавыя боты і галіфэ).

З вартай жалю какеткі, якой спачатку падаецца гледачу Вера Аляксееўна, акцёр паступова пераўтвараецца ў суровую байбабу, якая з кулакамі накідваецца на "каварнага распусніка" Плахава (які і без таго ўжо сядзіць у клетцы). Вера Аляксееўна дадае да грахоў адстаўнога марскога афіцэра яшчэ і віну за ўсіх кінутых, абманутых калісьці мужчынамі дзяўчат і жанчын.

Пакаёўкіную "песню" спявае, лямантуючы па-бабску, і Калошніца (а гэта не што іншае, як некалі спёрты Плахавым з марскога карабля сундук, прыстасаваны ў вітальні пад абутак). З вышыні свайго невысокага становішча нават яна абвінавачвае гаспадара ў распусьце і спрабуе даваць парады сям'і Плахавых як ім жыць далей.

Урэшце скпочную калошніцу ўсё ж не слухаюць і... распілоўваюць яе напалам. Пры гэтым Сяргей Журавель аказваецца ўдзельнікам проста цыркавога нумара, бо калі Плахаў і Плахава завіхаюцца з пілой-двухручкай, ён ляжыць у тым сундуку.

Адну з апошніх сцэн акцёры іграюць седзячы на кавалках-тумбачках распілаванай калошніцы (якая таксама ёсць своеасаблівая дэталь іх сямейнай клеткі). Сяргей Журавель у гэтай сцэне ўжо не ўдзельнічае. Яго героі, адлюстраваўшы ўнутраны свет Плахава і Плахавай, а таксама розныя абрысы прывіднае клеткі, знікаюць са сцэны.



І муж, і разгубленая жонка кожны на сваёй палове калошніцы. Плахава зразумела, што ў гэтай сітуацыі ўтрымліваць мужа — гэта значыць быць падобнаю адначасова і да мага-шарлатана, і да жорсткага наглядчыка, і да зацятай мужаненавісніцы-пакаёўкі, і нават... да калошніцы (якая на пачатку спектакля "схавала" ад гаспадара яго боты на тоўстай падэшве). Таму жонка і аддае абутак: ты вольны, ідзі!

Плахаў надзявае модныя боты. Хістаецца ў іх. Ідзе як на хадулях — але ж яму так хочацца падрасці, быць сучасным у вачах маладой абранніцы, у вачах жонкі... Урэшце, апраўдацца, стаўшы хоць крышачку вышэйшым, перад самім сабою.

Крок — і...

Якім будзе наступны крок Плахава?

Спектакль заканчваецца нямой сцэнай: жонка застыла на сваёй паўкалошніцы, муж робіць першы крок ад яе.

І хоць калошніца распілавана, ды ўсё ж ёсць надзея (а можа, — таму і ёсць надзея), што гэтыя людзі, урэшце зразумеўшы вольналюбівую, іскрыстую, сонечную гуллівую сутнасць Любові, змогуць яшчэ знайсці сваё шчасце.

Нядаўна стала вядома, што Сяргею Жураўлю прысвоена званне заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь. Віншуем!

**Іван ЖДАНОВІЧ**

ТВОРЦА

# Голас продкаў — для будучыні

Уладзіміра Пузыню добра ведаюць і на радзіме, і за яе межамі. Адмысловы майстар-фалькларыст, які паводле толькі малюнкаў і апісанняў вярнуў з небыцця не адзін народны музычны інструмент, выдатны выкладчык кафедры духавой музыкі Беларускага універсітэта культуры, ганараваны званнем заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі...

Нарадзіўся ён у Мінску. А любоў да народнай творчасці прыйшла да яго, як і да коласаўскага Сымона-музыкі, на прасторах палёў, калі ён хлопчыкам-падпаскам слухаў ігру дзеда на жалейцы. І жыццё сваё ён звязаў з музыкай: скончыў Мінскае музычнае вучылішча, потым граў на трубе ў аркестры Літоўскага цырка.

Настаўнікам жа ў любімай справе быў для яго майстар-настройшчык Уладзімір Крайко. У 1977 годзе з'явілася першая жалейка, удасканаленая Пузынем. І пайшло: праз год убачылі свет адмысловыя ўдарныя інструменты, а яшчэ праз тры ў друку загаварылі пра тое, што таленавіты майстар-рэстаўратар стварыў старажытныя інструменты — турыны рог, або сурму. Дарэчы, сурмы У. Пузыні з 1989 года выкарыстоўваюцца ў оперы У. Солтана "Дзікае паляванне караля Стаха". І гэта не адзіны зроблены ім інструмент, які можна пачуць у спектаклях Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета. Гучыць тут дзякуючы У. Пузыню і флейта Папагена (Моцартава "Чарадзейная флейта"), і ліры вывеў на сцэну ў оперы А. Бандарэнкі "Князь Навагрудскі" таксама ён. А яшчэ — беларуская дудачка, скарыстаная ў музыцы Я. Догі да кінафільма В. Турава "Чорны бусел", таксама "дзіця" гэтага выдатнага майстра-музыканта.

Пералік інструментаў, зробленых У. Пузынем, уражвае: беларуская дуда, камплект дудак (альт, сапрана, бас), цымбалы ды шмат што іншае. У 1993 годзе паводле малюнкаў XIII стагоддзя ён аднавіў хорум, незвычайны выгляд якому надае... гарбуз. Непаўторнае гучанне хорума можна было пачуць нават у тэлеэфіры. Наогул, ягоныя інструменты выкарыстоўваюць у сваіх кампазіцыях беларускія гурты "Палац" і "Крыві", трапілі ўдоўныя вырабы майстра і ў Амерыку, Францыю, Германію...

Уладзімір Пузыня шмат зрабіў для сённяшняга жыцця беларускай народнай музыкі. Дбае ён і пра яе будучыню. У 1994 годзе выдаў зборнік "Лірнік" — школу ігры на народных інструментах. Пазней у свет выйшаў напісаны ім дапаможнік "Двухгадовыя майстаркласы па рэстаўрацыі і настройцы музычных інструментаў".

На жаль, шмат хто за будзённай мітуснёй пачаў забывацца на свае карані, сваю гісторыю і нават на матчыну мову. І дзякуй Богу, што ёсць такія людзі, як Уладзімір Пузыня, здатныя захапіць сваёй неабыякавасцю да мінулага бацькаўшчыны, любоўю да яе і дзейсным імкненнем да яе адраджэння.



**Вольга КУЧУР,**
**студэнтка факультэта журналістыкі БДУ**

*На здымку: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір ПУЗЫНЯ ў майстэрні.*

*Фота А. КАЛЯДЫ*

## З пакалення, апаленага вайной



**Нядаўна адзін са старэйшых беларускіх пісьменнікаў Пятро Прыходзька адзначыў сваё 80-годдзе. З гэтай нагоды ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася літаратурная сустрэча. Пятро Фёдаравіч належыць да пакалення, апаленага вайной. Яго ваенны шлях ляжаў ад Волгі да Эльбы. Свой аўтограф ён пакінуў на сценах рэйхстага.**

**Павіншаваць юбіляра прыйшлі яго шматлікія сябры, пісьменнікі, вучні мінскай школы N 98, навучэнцы педкаледжа N 1.**

**Ад імя Саюза пісьменнікаў выступіў намеснік старшыні Навум Гальпяровіч. Са шчырымі словамі віншавання звярнуліся да юбіляра Алесь Савіцкі, Іван Кудраўцаў, Мікола Аўрамчык, Уладзімір Федасеенка, Вольга Казлова, вядучы вечарыны Іван Курбека.**

**Гучалі на сустрэчы і паэтычныя віншаванні. Навучэнцы педкаледжа чыталі вершы юбіляра.**

**Сам Пятро Прыходзька падзяліўся з прысутнымі сваімі ўспамінамі, творчымі планамі.**

**Музычны падарунак юбіляру падрыхтавалі ўдзельнікі ансамбля "Менскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука.**

**Н. МАКРЫЦКАЯ**

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*

## Адзначана Пушкінскім медалём

**Саветнік па культуры пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Рудольф Лагавееў і дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя А. Пушкіна Наталля Чуева ўручылі расійскі юбілейны медаль у гонар 200-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Пушкіна дырэктару цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Пухавіцкага раёна Ганне Лабаставай. Безумоўна, выбар далёка не выпадковы. У Пухавіцкім раёне, у Мар'інай Горцы летась быў праведзены цэлы шэраг юбілейных мерапрыемстваў. Г. Лабастава — самы непасрэдны іх арганізатар.**

**Варта заўважыць, што пухавіцкія бібліятэкі, кіраўніцтва цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмай уважлівыя і да прапаганды беларускага прыгожага пісьменства. Толькі ў апошні час у раёне ладзіліся розныя імпрэзы, прысвечаныя творчасці Івана Чыгрынава і Алеся Бачылы, Аркадзя Моркаўкі і Міхася Чарота, іншых пісьменнікаў.**

**Мікола МІРШЧЫНА**

## "Роднае слова", N 2

**75-годдзе народнага пісьменніка Беларусі "Роднае слова" адзначае рэдакцыйным артыкулам, згадкамі А. Марцiновіча пра новыя творы Івана Якаўлевіча "З вышыні пражытага" і пачаткам артыкула самога І. Навуменкі "Уладзімір Жылка". А да 65-годдзя народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна прымеркавана публікацыя артыкулаў А. Лойкі "Пра Барадуліна — без цытатаў", В. Старычонка "Філасофская лірыка Рыгора Барадуліна праз прызму метафары", верша М. Скоблы "Рыгору Барадуліну пасля прачытання ягонай кнігі "Евангелле ад Мамы" і верша самога Р. Барадуліна. Змешчаны заканчэнне артыкула Е. Лявонавай "Творчасць Васіля Быкава і Жана Поля Сартра праз прызму традыцыі Дастаеўскага: філасофска-эстэтычныя перасячэнні", В. Рагойшы "Ёсць адказнасць перад строгім вершам" (шасцірадкоўе Аркадзя Куляшова), П. Банцэвіча "Асветніцкая ідэя ў празаічных творах Уладзіміра Караткевіча", А. Чэчата "З сонцам у душы" (да 65-годдзя педагога Валянціны Раманцэвіч), Г. Кірыленкі "Псіхалогія публічнага выступлення", С. Філімонавай і В. Фіцнер "Творчая асоба ў сучасным мастацтве Беларусі", В. Малюшынай "Крылы на пагорках". Да 60-годдзя мастака А. Марачкіна выступае В. Архіпава з артыкулам "...Ісці мне па гэтым шляху". Пад рубрыкай "Наш каляндар" публікуюцца вершы А. Коршака. Чытач можа пазнаёміцца і з вершамі П. Прыходзькі — Пятро Фёдаравіч, як вядома, адзначыў сваё 80-годдзе.**

ВІНШУЕМ!

# Не прыхарошваючы жыццё

## Аркадзю МАРЦІНОВІЧУ — 80

Няўмольны час усё больш і больш старыць колішніх лімаўцаў. Падумаць толькі: Аркадзь Нічыпаравіч працаваў у "Літаратуры і мастацтве" ў 1957—1964 гадах! Колькі пакаленняў лімаўцаў за гэты час змянілася! Але з "ЛіМам" ён у пэўнай ступені парадніўся яшчэ куды раней. Менавіта з "ЛіМам" звязана першае выступленне А. Марціновіча ў рэспубліканскім друку: у маі 1938 года быў апублікаваны яго верш "Чырвоны сцяг". А на працягу 1938—1939 гадоў з'явіліся творы і ў тым жа "ЛіМе", і ў часопісе "Полымя", і ў газеце "Чырвоная змена".

У 1939 годзе А. Марціновіч скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча. А праз некалькі месяцаў, паспеўшы папастаўнічаць, Аркадзь Нічыпаравіч быў мабілізаваны ў армію. Пра гэта ў аўтабіяграфіі "Штрыхі", змешчанай у кнізе жыццяпісаў беларускіх пісьменнікаў "Вытокі песні", сведчыць: "Ледзь не адразу трапіў на фінскую вайну, прайшоў салдатам-сувязістам ад Куаккалы да Выбарга. Вайна была наогул цяжкая, а для мяне — асабіста, бо я быў зусім малады, незагартаваны, няўмелы ў ваеннай справе — усё даводзілася спасцігаць у баях. Праз тры месяцы пасля заканчэння фінскай вайны — удзел у вызваленчым паходзе ў Прыбалтыку. Тут, у Прыбалтыцы, у Літве, праз год сустрэў новую, вялікую вайну, — яна, як вядома, пачалася 22 чэрвеня".

Былі першыя баі, кантузія, адступленне, шпіталь у Маскве, а "потым лёс закінуў... у ваеннапяхотнае вучылішча". З яго А. Марціновіч выйшаў лейтэнантам, камандзірам роты супрацьтанкавых ружжаў: "З гэтымі ружжамі ў той год двума заходамі ўдзельнічаў у баях: на Бранскім фронце ўлетку і пад Ржэвам у снежні. Гэта былі цяжкія баі, мы наступалі, але марудна, з вялікімі стратамі". Яшчэ быў двойчы ранены, адпраўлены ў глыбокі тыл, у Сярэднюю Азію. Пазней служыў у тылавых часцях да сярэдзіны 1946 года.

Вярнуўшыся на Радзіму, А. Марціновіч працаваў у рэдакцыі газеты "Савецкі селянін" літсупрацоўнікам, загадчыкам аддзела. У 1950 годзе скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ, у 1955-м — завочна філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у рэдакцыі газеты "Калгасная праўда", у выдавецтве "Беларусь", з'яўляўся адказным сакратаром Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры і мастацтва, літаратурным кансультантам СП БССР, а ў 1974—1981 быў галоўным рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Кніга вершаў А. Марціновіча "Чырвоныя ветразі" выйшла ў 1965 годзе. Асобныя творы і найперш паэма "Сузор'е Лебедзь" узнаўляюць тыя драматычныя часы, калі ў гады панавання сталінізму нішчыліся людскія лёсы, падрывалася вера ва ўсё добрае і справядлівае.

Найбольш значныя набыткі А. Марціновіча ў галіне прозы. У яго выйшлі кнігі аповесцей і апавяданняў "Надзея" (1960), "Водгулле" (1963), "Прасека" (1967), "Панарама" (1970), "Няхай ідзе дождж" (1973), "Сцюжа" (1976), аповесць для дзяцей "Неадкрыты востраў" (1966). Паспяхова асвоіў А. Марціновіч і жанр рамана, аб чым засведчылі такія творы, як "Не шукай слядоў сваіх", "Груша на Голым полі", "Цень крумкачовага крыла". Галоўны герой першага Віктар Раманіцкі праходзіць дарогамі вайны, шукае сваё месца ў нялёгкім часе. Гэтая ж тэма гучыць і ў другім рамане. А вось у "Цені крумкачовага крыла" асабліва важнае значэнне набываюць рэтраспекцыі, у тым ліку вяртанне да падзей сталінізму.



Вядомы А. Марціновіч і як перакладчык.

Віншуем Аркадзя Нічыпаравіча з 80-годдзем! Зычым яму яшчэ доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў!

НАДЗЁННАЕ

# Абараняць фальклор ад сцэны?

***У Нацыянальным Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі адбыўся "круглы стол" па тэме "Традыцыйная культура і дзеці: праблемы пераемнасці".***

Пры існаванні на працягу некалькіх гадоў фестывальнага руху гэта была першая спроба сабраць разам дзеля ўзаемных кансультацый прадстаўнікоў Міністэрстваў культуры і адукацыі, навуковых і навучальных устаноў, кіраўнікоў дзіцячых фальклорных калектываў. Карацей, тых асобаў, якія непасрэдна маюць як практычныя, гэтак і тэарэтычныя кампетэнцыю, досвед і належны інтарэс. Засяроддзіліся прысутныя на значнасці працэсу вуснага і нагляднага засваення самабытных творчых традыцый.

Паколькі фальклор выконвае не толькі функцыю выразнага і выгоднага рэпрэзентавання краіны і нацыі ў свеце, то, натуральна, што ва ўнісон і ў якасці дамінанты гаварылася і пра другую яго ролю — выхаваўчую. Натуральна, маюцца на ўвазе нацыянальная самаідэнтыфікацыя маладога пакалення, падвышэнне агульнага маральна-інтэлектуальнага ўзроўню, а разам з тым частковае нівеліраванне, процівага татальнай экспансіі альтэрнатыўных культур (да прыкладу, рускай альбо амерыканскай) і субкультур (папса) і папярэджанне патраплянне пад негатыўныя асацыяльныя ўплывы і хваробы (у тым ліку п'янства і наркаманію).

У прыватнасці, з'явілася нават прапанова паступова ўводзіць у школьную праграму выкладанне хаця б элементарных рэчаў традыцыйнай культуры. Альбо ў выглядзе пазакласных гадзін, альбо ў выглядзе часткі прадмета "Спевы і музыка". Як верагодны вынік — новыя гурткі і самадзейныя ансамблі, проста веды пра беларускія старажытныя рамёствы, інструменты, строі, танцы, песні і абрады. Тады ў застоллях ці пры нагодзе паказацца, выявіцца ў нацыянальнай аздобе мы не будзем абмяжоўвацца — да няёмкасці і сораму — выключна "Касіў Ясь канюшыну" альбо "Цячэ вада ў ярок".

І не трэба загадзя турбавацца мажлівым адпрэчваннем. Яно пры тонкім пісьменным падыходзе і псіхалагічных заахвочваннях, без правакацыйных насаджэнняў, акадэмічнасці і цягамотнасці, прынамсі, у катэгарычнае не ператворыцца. Разам з тым звышнаіўна чакаць пажаданай рэакцыі адразу. Вынішчанае вяртаюць дзесяцігоддзямі. Але, здаецца, павінна спрацаваць надзвычайнае пачуванне, а значыць, перайманне дзецьмі і моладдзю роднага на генетычным узроўні, а потым — свядома. Ад моды да прызвычайвання бавіць падобным чынам час. Абы фальклор не падаваўся моладзі нечым пабочным і недарэчным.

Відавочна, што набліжэнне дзяцей да фальклору і прыязнае стаўленне да розных ягоных формаў як мага ўдала адбываецца менавіта праз непасрэдныя стасункі з носьбітамі мастацкіх традыцый — гэтым самым вусным шляхам. Гэта лепш за ўсялякія лекцыяпадобныя сентэнцыі ды іншыя захады завочнай папулярызацыі. Нездарма Антаніна Абрамовіч, музычная кіраўніца фальклорнага калектыву "Берагіня" Мётчынскай сярэдняй школы Барысаўскага раёна, казала, што "дзве гадзіны, праведзеныя ў хаце якой-небудзь бабулі, — нават больш, чым год слоўных намаганняў настаўніка". А часам заўзятасць ва ўладзе ў фальклорнай творчасці ператвараецца ў надзвычайную. Паводле куратаркі ансамбля "Рудабельскія зорачкі" з г.п. Акцябрскі (старажытная назва — Рудабелка), што на Гомельшчыне, Вольгі Дульскай, некаторыя дзяўчаты адмаўляюцца з'язджаць з вёсак вучыцца далей, абы толькі не пакідаць свой калектыў. Дарэчы, Мётча і Акцябрскі з'яўляюцца ці не самымі вядомымі ў краіне мясцамі, дзе вельмі ўдала аднаўляюцца і папулярызуюцца сярод дзяцей і моладзі мясцовыя культурныя традыцыі.

А да дыскусіі на "круглым стале" далася дастаткова значная праблема захавання фальклорнай аўтэнтычнасці. У прыватнасці, пытанне распаўсюджвання па-за дадзеным рэгіёнам і адаптавання формаў традыцыйнай народнай творчасці на сцэне і межаў акадэмічнага ўмяшальніцтва спецыялістаў у працэс пераймання моладдзю і дзецьмі рухавых і галасавых аспектаў. А. Абрамовіч распавяла пра ўласныя і ўсяго ансамбля "Берагіня" збянтэжанасць і крыўду, што з'явіліся пасля прачытання публікацыі Юліі Чурко "Было свята на Сожы" ("ЛіМ", 12 лістапада мінулага года). Асаблівую крыўду выклікала наступнае: "Аўтэнтычны фальклор жыве ва ўласным асяроддзі, і яму супрацьпаказана сцэна"; "перайманне манеры народных танцораў, якія знаходзяцца, часцей за ўсё, у паважаным узросце, робіць з дзяцей маленькіх дзядулях і бабулек, што выглядае дзіўна, а часам і камічна". Агульнай рэакцыяй на гэтую крытыку стала думка, што аўтарка артыкула такім чынам "абараняе не фальклор ад сцэны, а сцэну ад фальклору". Маўляў, без сцэны зараз, у пару першаснай рэстаўрацыі і папулярызацыі фальклору, проста не абысціся і што наогул некарэктна ацэньваць самадзейныя і прафесійныя калектывы, народна-традыцыйную творчасць і прафесійную паводле адных мастацкіх крытэрыяў.

А вось выкладчыца Беларускай акадэміі мастацтваў Ірына Мазюк лічыць, што небяспека ёсць, бо фалькэнтузіясты могуць ужо ў самім працэсе навучання дзяцей пераймання традыцыйнай культуры ў яе натуральных носьбітаў дапусціць, так бы мовіць, тэхнічныя скажэнні аўтэнтычнасці. Напрыклад, не зусім даследавана форма гуку. А "ў кожным рэгіёне свой галасавы рэжым", і "дзеці могуць пераняць не тое". Па-другое, патрэбны вельмі тонкія падыходы да матывацыі выканальніцтва. Продкі ж нашыя не спявалі і не таньчылі дзеля дэманстрацыі сваіх здольнасцяў. Трэба старацца выхоўваць "не артыстаў, а носьбітаў культуры". Ірына Мазюк прыгадала, што, каб заставаліся гармонія і натуральнасць, першыя фальклорныя фестывалі ў Прыбалтыцы праводзіліся ў лесе, ля вогнішчаў. Бо сцэна — своеасаблівы бар'ер, які перашкаджае разняволенасці, імправізацыі і калектыўнаму сугучанню. А менавіта гэта і з'яўляецца першаснай перадумовай аўтэнтычнай атмасферы выканання.

Для пераадолення падобных праблем нам усім, а Міністэрствам культуры і адукацыі ў першую чаргу, здаецца, неабходна проста канцэптуальна вызначыцца, што ж такое фальклор? Сродак аднаўлення генетычнай памяці альбо нейкая дэкаратыўна-мастацкая аздоба, як гэта пераважна ёсць цяпер?

**Кірыла ПАЗНЯК**

АСОБЫ

# "Не хачу займацца манілаўшчынай..."

***Бібліятэчная ціша ратуе. Ад мітусні, абыякавасці, неабдуманасці. І кніжныя паліцы — як вартавыя мудрасці, духу і сусветнай раўнавагі. Усё мінае, а кнігі застаюцца. І слова, з якога ўсё калісьці пачалося, раз і назаўжды жыве, абуджае, гоіць душу, не дае супакоіцца. Веды — лекі. Бібліятэка — храм. Чытач — зацяты вернік, які з дапамогай кнігі спрабуе чытаць сябе... Ва ўсім гэтым Наталля ЧУЕВА пераконваецца штодня. Пераконваецца і спяшаецца жыць. Пасада дырэктара Мінскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна вымагае актыўнічаць, натхняць сябе і іншых у высакароднай справе служэння Слову...***



**— З усяго Маркса, бадай, толькі адзінае і запомнілася добра: аўтар "Капіталу" ва ўсіх анкетах даводзіў, што любімым заняткам лічыць "капанне ў кнігах"... З гэтай нагоды вы — зацятая "марксістка"?**

— Пэўна, таму і стала я бібліятэкарам, што з дзяцінства любіла "капанне ў кнігах", у гэтай глебе духоўнай. А з цягам часу з задавальненнем капаюся і ў сапраўднай глебе — сярод кветак, дрэў і птушак у сваім садку на лецішчы.

**— Якім быў шлях да дырэктарства, Наталля Станіславаўна?**

— Паступовым і натуральным: бібліятэкар, загадчык сектара, аддзела, намеснік дырэктара і, урэшце...

**— Чым сёння жыве абласная бібліятэка?**

— Яна з'яўляецца не толькі буйнейшым сховішчам кніг у вобласці, але і інфармацыйным, адукацыйным, культурным і грамадскім цэнтрам для ўсіх жадаючых атрымаць і пашырыць свае веды, карысна правесці свой вольны час.

Фонд універсальны, аб'ём яго складае 715 тысяч асобнікаў. Гэта кнігі, ноты, карты, каля 300 назваў перыядычных выданняў, выяўленчых матэрыялаў, аўдыёвізуальных дакументаў, CD-ROM... Карыстаюцца фондам больш за 50 тысяч чытачоў. Паступова бібліятэка пераходзіць на новыя інфармацыйныя тэхналогіі, ужо 10 гадоў мы працуем у накірунку аўтаматызацыі бібліятэчна-бібліяграфічных працэсаў. З 1996 года дзейнічае электронны каталог, ствараецца база звестак, якая прызначана аператыўна і якасна задавальняць разнастайныя запыты чытачоў. Да паслуг карыстальнікаў — дамашні аба-немент, 7 галіновых і спецыялізаваных чытальных залаў, дзіцячы філіял імя Я. Маўра.

У выніку супрацоўніцтва з культурнымі цэнтрамі замежных краін на Беларусі ў бібліятэцы працуе "Франка-беларуская зала інфармацыі аб сучаснай Францыі", якая карыстаецца попытам не толькі ў тых, хто вывучае французскую мову, але і ў тых, каго вабіць Францыя, яе культура, мастацтва, тэхнічныя дасягненні.

Сумесна з Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Саюзам беларускіх пісьменнікаў, Беларускім фондам культуры і іншымі грамадскімі арганізацыямі бібліятэка праводзіць для чытачоў цікавыя сустрэчы з дзеячамі навукі, культуры і мастацтва, шматлікія прэзентацыі, вечарыны. Неадночы гасцямі бібліятэкі былі Раіса Баравікова, Ніл Гілевіч, Сяргей Законнікаў, Анатоль Вярцінскі, Аляксей Дудараў, Вольга Іпатава, Артур Вольскі, Генадзь Бураўкін, Алесь Пісьмянкоў, Леанід Дранько-Майсюк, Марыя Захарэвіч, Галіна Дзягілева, многія з якіх сталі сапраўднымі сябрамі бібліятэкі.

Пры бібліятэцы працуе клуб "Кніга і мы". Летась, у сувязі з 200-годдзем з дня нараджэння А. Пушкіна, імя якога бібліятэка носіць ужо амаль 100 гадоў, мы задумалі стварыць у бібліятэцы Пушкінскі інфармацыйны цэнтр. За апошні час у цэнтры сабраны цікавыя матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта. Фарміруецца фонд аўдыёвізуальных дакументаў, створаны зводны каталог дарэвалюцыйных выданняў і публікацый А. Пушкіна і літаратуры пра яго з бібліятэчных, музей-ных, архіўных фондаў Беларусі. Нашы супрацоўнікі А. Клюева і Н. Балукова сумесна з Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтрам імя Ф. Скарыны падрыхтавалі да выдання зборнік "Пушкін і Беларусь". Прэзентацыя гэтай кнігі адбылася ў нашай бібліятэцы ў рамках міжнароднай канферэнцыі "Пушкін — беларуская культура — сучаснасць". Наш уклад у святкаванне 200-годдзя з дня на-раджэння вялікага паэта не застаўся незаўважаным. Бібліятэка мела гонар атрымаць ад Пасольства Расіі на Беларусі памятныя падарункі і юбілейны медаль "А. С. Пушкін"...

Абласная бібліятэка з'яўляецца і навукова-метадычным цэнтрам для 28 цэнтралізаваных бібліятэчных сістэм вобласці. Менавіта тут выпрацоўваецца бібліятэчная палітыка рэгіёна — гэта і абласная сістэма павышэння кваліфікацыі спецыялістаў, і конкурс "Лепшы бібліятэкар вобласці", і злёты маладых паэтаў Міншчыны "Нас слова Купалы да творчасці кліча", і дзіцячыя агляды "Юныя таленты Міншчыны", і разнастайныя мэтавыя праграмы "Памяць Міншчыны", "Міласэрнасць", "Дзеці. Сям'я. Кніга"...

Зараз рыхтуемся да свайго 100-гадовага юбілею, які адзначым у снежні.

**— Дык што ж чытаюць вашы наведвальнікі? Ці абнадзейваюць "рэйтынгі" чытацкага попыту? І які ён, ваш чытач?**

— Змены, якія адбываюцца ў палітычным, сацыяльна-эканамічным, культурным жыцці нашага грамадства безумоўна ўплываюць на фарміраванне чытацкіх інтарэсаў. Вялікім попытам карыстаецца сёння літаратура па эканоміцы, маркетынгу, менеджменту. Узрасла цікавасць чытачоў да такіх галін ведаў, як гісторыя, філасофія, культуралогія, псіхалогія, да замежных моў. Што тычыцца мастацкай літаратуры — перавага за аўтарамі, якія ўваходзяць у вучэбныя праграмы сярэдняй і вышэйшай школы, таму што 74 працэнты нашых чытачоў — гэта студэнты і вучні. Не знікае цікавасць у моладзі да жанру фантастыкі. Старэйшае пакаленне традыцыйна чытае мемуарную літаратуру. Ёсць свой чытач і ў так званага "лёгкага жанру" — дэтэктыва, трылера, жаночага рамана. Так што чытач самы разнастайны. Заўжды ўспамінаю словы рускага філосафа І. Ільіна: "Кожны з нас ёсць тое, што ён чытае"... Безумоўна, непакоіць, што дзеці ўсё больш аддаюць перавагу тэлебачанню, камп'ютэрам. Мы ўсяляк стараемся далучыць маленькага чытача да кнігі, але ж галоўная роля тут належыць сям'і...

**— Пра што думаецца сярод кніжных паліц? Што ў першую чаргу непакоіць душу?**

— Як дырэктара, вельмі непакоіць кадравая сітуацыя ў бібліятэцы. Ад людзей залежыць поспех нашай справы. А сёння ж назіраецца тэндэнцыя, калі бібліятэкары з вышэйшай адукацыяй, з веданнем замежнай мовы, якія ўмеюць працаваць на камп'ютэрах, пакідаюць бібліятэку ў пошуках большага заробку... Таму з цеплынёй думаю пра тых калег, у якіх адданасць прафесіі пераважае прагматызм. Гэта В. Алешка, В. Шакура, М. Лыка, Т. Краўчонак, Н. Баброва, Т. Бяляева і многія іншыя, хто заўсёды прыйдзе на дапамогу і падтрымае ў складанай сітуацыі. Непакоіць сітуацыя з камплектаваннем бібліятэкі, штогод памяншаюцца кніжныя фонды. Акрамя гэтага, безліч фінансавых, тэхнічных і іншых праблем. Скажам, каторы год ужо працякае дах бібліятэкі. Але ж свет не без добрых людзей. Аблвыканкам выдзеліў значныя сродкі на рамонт бібліятэкі. Карыстаючыся выпадкам хачу ад імя ўсіх нашых чытачоў шчыра падзякаваць за дапамогу...

Гледзячы на тысячы фаліянтаў ведаў і мудрасці на паліцах бібліятэкі, ніяк не магу спасцігнуць, чаму ж, валодаючы такім багаццем, чалавецтва так і не змагло пакуль пабудаваць шчаслівае і дасканалае грамадства...

**— Якой бачыцца бібліятэка заўтрашняга дня?**

— У першую чаргу аўтаматызаванай, рэфармаванай як мультымедыйны інфармацыйны цэнтр для розных узроставых і сацыяльных груп насельніцтва. Але пры гэтым мне хацелася б, каб наша бібліятэка заставалася і асяродкам духоўнасці і цэнтрам нацыянальнай культуры. Зрабіць гэта — высакародная місія бібліятэкара...

Менавіта такія бібліятэкі я сустракала ў Францыі, Амерыцы, дзе была на стажыроўцы са сваімі калегамі.

**— Знаёмы філосаф сцвярджае, што толькі адзіная кніжка ў жыцці з'яўляецца вызначальнай, і толькі яна здольная зрабіць у душы "сапраўдную рэвалюцыю". Праўда, да гэтага моманту існіны "пералапаціць" трэба процьму літаратуры. Вы сваю адзіную і "рэвалюцыйную" прачыталі ўжо? І што ўвогуле чытаеце зараз?**

— Не люблю гэтага слова — рэвалюцыя, куды лепш эвалюцыя. У мяне ў розныя перыяды жыцця былі свае вызначальныя кніжкі. У дзяцінстве — казкі Пушкіна, Андэрсена, Бажова, апавесці Твена, фантастыка Верна, раманы Дзюма, затым прыйшлі Талстой і Дастаеўскі, Купала і Караткевіч, Маэм і Галсуорсі, Біблія... І кожны раз — адкрыццё, радасць і імгненне шчасця, іншакшае ўспрыманне жыцця. А зараз вось зноў вярнулася да любімага Чэхава, перачытваю яго апавяданні. Люблю беларускую сучасную паэзію. Натуральна, шмат чытаю перыядычных выданняў.

**— Якую кніжку, Наталля Станіславаўна, лічыце кепскай? І ці шмат такой літаратуры ў вашай бібліятэцы?**

— Не кожны абраны быць творцам. Як бібліятэкар я з вялікай павагай, захапленнем стаўлюся да людзей, якія самім Богам прызваныя да вялікай таямніцы — ствараць, нараджаць прыгожае Слова. І для мяне кніга не можа быць кепскай, ёсць проста кнігі рознай мастацкай вартасці і на розны чытацкі густ.

**— Што б асабіста вы змянілі ў дзяржаўных падыходах па ўмацаванні нашай культуры і мастацтва?**

— З гадамі я ўсё больш раблюся рэалістам, так што навошта займацца манілаўшчынай... Адно ведаю: чым вышэй пасада ў чалавека, тым больш сумленна і самаадданна ён павінен працаваць на сваім месцы. Можа, гэта адзін з галоўных падыходаў да ўмацавання нашай культуры...

**Задаваў пытанні**
**Яўген РАГІН**

**P. S.**
**Ад рэдакцыі.** Віншуем Наталлю Станіславаўну Чуеву з юбілеем і ўручэннем Ганаровага знака Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.



**ЧАСАПІС**

## Не старэе душой ветэран

**У канцы лістапада жыхары Горак атрымалі ад літаратурнага народнага аб'яднання "Роднае слова" музычна-паэтычны падарунак у выглядзе канцэрта, пабудаванага на вершах саліста хору ветэранаў "Спадчына" Барыса Грынблата і на песнях у яго выкананні.**

**Барыс Анатольевіч жыве ў Горках з 1997 года. Ён на заслужаным адпачынку, але актыўна ўдзельнічае ў мастацкай самадзейнасці, часта выступае на канцэртах, паспеў заслужыць прыхільнасць сваіх слухачоў.**

**На вечары са сваімі музычнымі падарункамі выступілі і іншыя самадзейныя артысты: Вольга Кучына, Яўген Сафронаў, а таксама калектыў "Гармонія", што працуе пры Горацкай школе мастацтваў, эстрадны інструментальны аркестр. На "біс" было сустрэта выступленне Б. Грынблата і хору ветэранаў "Спадчына", якому нядаўна споўнілася тры гады.**

**М. СТУДНЕВА,**
**супрацоўнік Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея**

## З кагорты лімаўцаў

**У рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" Рыгор Няхай працаваў з 1946 па 1952 год. А нарадзіўся Рыгор Восіпавіч 5 снежня 1914 года (памёр 25 ліпеня 1991-га) у вёсцы Сяліба цяперашняга Бярэзінскага раёна. Скончыў Мінскі педагагічны тэхнікум, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Калодзішчанскай сярэдняй школе пад Мінскам. Завочна скончыў літаратурны факультэт Мінскага настаўніцкага інстытута. У 1939 годзе быў прызваны ў армію. У гады Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях на Паўднёвым, 1-м Украінскім франтах. У 1942—1943 гадах выконваў заданні Галоўнага разведупраўлення Савецкай Арміі ў тыле ворага. Быў начальнікам асобага аддзела партызанскага злучэння Ю. Збанацкага. Закончыў вайну на Эльбе, а перад гэтым былі ваенныя дарогі, што вялі праз Польшчу, Германію, Чэхаславакію, Аўстрыю, Венгрыю. Пасля працы ў "ЛіМе" Р. Няхай узначальваў аддзел крытыкі і публіцыстыкі часопіса "Полымя", быў рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР.**

**Друкаваўся з 1935 года. Аўтар шэрагу кніг паэзіі і прозы, у тым ліку адрасаваных дзецям. У 1984 годзе выйшлі "Выбраныя творы" ў двух тамах. На беларускую мову Р. Няхай пераклаў многія творы пісьменнікаў саюзных рэспублік. У яго літаратурным запісе выйшлі кнігі В. Лівенцава "Партызанскі край", І. Вятрова "Браты па зброі", І. Шубітыдзе "Палескія былі".**

## Па жыцці — з гумарам

**Міхась Чавускі (нарадзіўся 23 снежня 1904 года ў вёсцы Шапілава цяперашняга Жлобінскага раёна, памёр 1 ліпеня 1984-га) найперш зарэкамендаваў сябе як сатырык і гумарыст, хоць выступаць у друку пачаў у 1937 годзе з артыкуламі. Выйшлі кнігі апавяданняў, фельетонаў, аднаактовак і сцэнак "Крытычны момант", "Індык на курорце", "Рука руку мые", "Чаму ж не смяяцца?", "Стрэляны Верабʼёў". Два выданні вытрымала аповесць М. Чавускага "Фарбамі гневу".**

**А пражыў Майсей Моталевіч багатае жыццё. З 1917 года быў наборшчыкам друкарні ў Жлобіне. З 1924-га — у Мінску. Служыў у пагранічных войсках, працаваў у Белспажывсаюзе, рэдагаваў газету палітаддзела Плешчаніцкай МТС, мінскую раённую газету, быў інструктарам ЦК КПБ, адказным кіраўніком і галоўным рэдактарам БЕЛТА, завочна вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі ў Ленінградзе. У гады Вялікай Айчыннай вайны — адказны рэдактар газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну", сатырычнай газеты Вілейскага абкома "Партызанскае слова". У пасляваенны час — намеснік старшыні Камітэта па радыёвяшчанні пры СНК БССР, галоўны рэдактар, потым загадчык аддзела фельетонаў часопіса "Вожык", а ў 1964—1970 гадах — дырэктар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.**

БЫЛОЕ

# Скрыпка і кацялок

У свой час Рыгор Шырма пісаў, што шмат мудрасці, трывогі і радасці, шчырай любові і праўды захавалася ў скарбах народнага мастацтва. Яно нарадзілася ў далёкія часы гісторыі народа, разам з ім расло, мацнела, развівалася, пераказваючы тым самым волю і няволю многіх пакаленняў... Словы гэтыя ўспомніліся мне пры сустрэчы з Леанідам Кузняцовым.

Леанід Міхайлавіч паволі, не спяшаючыся, дастае з футарала сваю прыгожую, з бліскуча-чорным адценнем, незаменную спадарожніцу жыцця — скрыпку. Беражліва, ласкава праводзіць рукою па струнах, нібы здымаючы нябачны налёт часу, прытуляе, як тое дзіця, яе да сябе. Некалькі хвілін чакае ў задуменні. Вырашае, відаць, з чаго пачаць. А потым асцярожна праводзіць смыком па струнах.

І яго верная сяброўка тут жа адгукнецца чароўнай мелодыяй старадаўняй беларускай велікоднай песні. І так пяшчотна, сама сабой, уліваецца тая песня ў душу, так лагодна і прыемна робіцца на сэрцы, што хочацца спяваць. Іграе стары музыка ўжо не для прысутных, а для сябе, а, можа, нават для ўсёй беларускай зямлі: для лясоў, рэчак, палёў, адкуль чэрпае новыя сілы, натхненне. Ляці, песня, у белы свет, ляці, музыка, да ўсіх добрых людзей!

Скрыпка, глядзіш, ужо зліваецца са сваім гаспадаром у адно цэлае, і ў такія хвіліны здаецца, быццам нішто не зможа разлучыць, разарваць гэтае адзінства і супольнасць, хіба толькі смерць.

...Адклаўшы скрыпку, слова за словам музыкант пачынае ўспамінаць:

**— Гэта пятая скрыпка ў маім жыцці і самая дарагая, бо, відаць, апошняя. Некалі выменяў яе ў аднаго мясцовага дзеда, які хадзіў па вуліцах і граў людзям. Яна даўняя, яшчэ дарэвалюцыйная, зроблена ў Германіі. Шмат вяселляў адыграў на ёй. Мы некалі з суседам Пятром Чулковым, які грае на баяне і акардэоне, абʼехалі ўсё наваколле. Паўсюдна запрашалі, асабліва на вяселлі. Раней жа не тое было, што цяпер. Абрадавыя песні гучалі — маладой, маладому, і трэба было іх падыграць, а некаторыя мелодыі і ўлавіць на ляту. Што ні вёска — свая песня, свая мелодыя.**

Леанід Міхайлавіч пражыў больш за 70 гадоў. Прайшоў праз усе выпрабаванні лёсу, зведаў і радасць, і гора. Сям'я ж бацькі была шматдзетная і малазямельная...

Юнаму самародку з Прынямоння вельмі падабалася слухаць, як дарослыя дзядзькі граюць на скрыпцы. Затоіцца дзе-небудзь у куточку на вяселлі, прытуліцца ў запечкі і слухае, ловіць надзвычай прыемныя і такія таямнічыя для яго музычныя гукі.

Скрыпкі ў сям'і не было, ды і наўрад ці мог хлопчык адважыцца папрасіць бацьку, каб той купіў інструмент. Надта вялікая была б раскоша. Але жаданне паспрабаваць, патрымаць у руках гэтую цудоўную рэч, якая прыносіць столькі асалоды, не пакідала яго.

**— Аднойчы на вяселлі адважыўся падысці да барадатага дзядзькі, які граў на скрыпцы, — расказвае Леанід Міхайлавіч, — папрасіў спачатку патрымаць, а потым ціхенька прытуліў яе да сябе і зайграў. Зайграў і сам здзівіўся і разгубіўся. У мяне атрымалася! Не вельмі добра, недасканала, але мелодыю можна было разабраць. Да смерці буду помніць, як дзядзька-скрыпач пахваліў мяне і сказаў, што буду добрым музыкантам, калі бацька купіць мне скрыпку, а я буду працаваць над сабой.**

Так пачалося яго захапленне музыкай. Шмат гадоў скрыпка была побач. А пазней, калі атрымаў вышэйшую музычную адукацыю, у руках сапраўднага майстра яна і плакала, і спявала, наводзіла на роздум, вучыла цярпенню і непакорлівасці, радавала і прымушала смуткаваць... Дваццаць песень у выкананні Леаніда Кузняцова было запісана на пласцінку ЮНЕСКА. Вясельныя, сірочыя, святочныя беларускія народныя песні гучалі ў яго выкананні ў Доме літаратара ў Маскве, калі там праходзіў агляд-конкурс народнай творчасці Беларусі і Таджыкістана.

Калі пачалі арганізоўвацца калгасы, Леанід Міхайлавіч працаваў леснікам. Жонка Марыя Іванаўна была паляводам. У Кузняцовых расло трое сыноў. Адзін у аднаго былі хлопцы: прыгожыя, дужыя, працавітыя, нібы ўзнагародзіў іх бацькоў лёс за нястачы і перажытае гора былых гадоў.

**— Музыка заўсёды была для мяне асноўай жыцця, — кажа Л. Кузняцоў. — Дзе б ні быў, заўсёды імкнуўся пачуць нешта новае, навучыцца таму, чаго яшчэ не ведаў.**

**Памятаю, пасля вайны самы лепшы базар быў у Лідзе. Часта бываў там па гаспадарчых справах. На базары заўсёды збіраліся музыкі. Пакуль пройдзеш па радах, выбіраючы пакупку, уволю наслухаешся беларускіх песень. Я жонку заўсёды папярэджваў: калі згубіш мяне на базары, то шукай там, дзе граюць музыкі. Не мог прайсці паўз іх, не мог не спыніцца. А як стану, што, здаецца, слухаў бы да самай ночы, забыўшыся пра ўсе свае хатнія клопаты.**

Цяпер Леанід Міхайлавіч жыве з малодшым сынам — Пятром. Жонка памерла. Даводзіцца мужчынам самім упраўляцца ў хаце і па гаспадарцы, без якой сёння ў вёсцы таксама не пражывеш. Калі вечарэ, Леанід Міхайлавіч бярэ скрыпку. Успамінае...

●

На вайне ён быў проста Лёнем. Аднойчы ў час наступлення пад Прохараўкай варожая куля прабіла ягоны, амаль новы, кацялок. А тут, бач, акурат падʼехала салдацкая кухня. Адразу дыхнула наварыстым баршчом. Куды дзенешся: давялося папрасіць кацялок у сяброў і, закурыўшы, адысці ўбок, чакаць. І раптам... непадалёк, сярод забітых фашыстаў, заўважыў маладзенькага салдата. На рамяні ў яго вісеў новы кацялок, ды яшчэ з накрыўкай. Што ні кажыце, не мог Лёня адмовіцца ад такой неабходнай рэчы! На вайне як на вайне... На кацялку заўважыў імя гаспадара: Thomas Ruff. Да самага канца вайны карыстаўся гэтай "знаходкай" савецкі баец.

З таго часу мінула больш як паўстагоддзя. Вясной (ужо не першы раз) немцы прывезлі ў мясцовую школу-інтэрнат гуманітарную дапамогу: медыцынскае абсталяванне, спартыўныя касцюмы, абутак і іншае. У гонар гасцей падрыхтавалі канцэрт сіламі школьнай мастацкай самадзейнасці. Акампанаваў, зразумела, Леанід Кузняцоў (іграў на розных інструментах).

Кіраўнік замежнай дэлегацыі, пажылы мужчына, быў вельмі расчулены выканаўчым майстэрствам віртуоза-музыканта, нават падняўся на сцэну і цёпла, ад усёй душы падзякаваў Леаніду Міхайлавічу за рэдкасную асалоду яго паслухаць. І тут жа назваў сваё прозвішча: Руф! Кузняцоў на нейкі момант разгубіўся і перапытаў. Ён успомніў, што аднойчы на вайне, пасля жорсткага бою, ён бачыў Томаса Руфа, забітага на савецкай зямлі... Замежны госць расхваляваўся. Падрабязна распытваў, дзе, калі і як адбылося тое здарэнне. Які салдат быў на выгляд, дзе знаходзіцца яго магіла... Урэшце, Кузняцоў адшукаў карту і паказаў прыблізна месца пагібелі юнага нямецкага салдата.

Аказалася, сямейства Руфаў доўгі час шукала (па самых розных інстанцыях) месца пахавання іх Томаса... І ўсё безвынікова. А родзічам так хацелася пабываць на магіле, аплакаць яе...

Мінула некалькі дзён. І нечакана Леаніду Міхайлавічу Кузняцову з Германіі прыйшла каштоўная пасылка. І была сёння гэтая пасылка для ветэрана вайны і працы вельмі дарэчы, як тады — вельмі патрэбны салдацкі кацялок. Гэта — жыццё...

**Іосіф ЗАЯЦ**

*г. Дзятлава*




# Праз 70 гадоў — узноўлена

Прайшло 70 гадоў з часу закрыцця Археаграфічнай камісіі Інстытута беларускай культуры. Яна праіснавала 4 гады (1926—1929 гг.) і была зачынена з прычыны згортвання палітыкі беларусізацыі і, адпаведна, беларусазнаўчых праграм у БССР, рэарганізацыі Інбелкульта ў Беларускую акадэмію навук. І прайшло 75 гадоў з таго часу, калі беларускія гісторыкі паставілі (Д. Даўгяла) і разгледзелі на І-ай канферэнцыі архіўных працаўнікоў БССР у 1924 г. пытанне аб стварэнні Археаграфічнай камісіі.

Гісторыя працы камісіі Інбелкульта паўстае славутай і, разам з тым, сумнай старонкай гістарычнай навукі на Беларусі. Меркавалася, што ў працы камісіі будуць прымаць удзел найбольш выдатныя беларускія гісторыкі: яе старшынёй будзе прызначаны М. Доўнар-Запольскі, а пазней — У. Пічэта. Першапачатковы план працы камісіі заключаўся ў працягу падрыхтоўкі да друку матэрыялаў Літоўскай Метрыкі — архіва былой канцылярыі вялікіх князёў Літоўскіх — да поўнага выдання яе галоўных матэрыялаў: кніг запісаў, судовых спраў, перапісаў. Беларускія вучоныя ў той час аднадушна падкрэслівалі выключную важнасць гэтых матэрыялаў для распрацоўкі гісторыі беларускага народа. Аднак пасля вымушанага адʼезду за межы Беларусі М. Доўнар-Запольскага ў 1926 г., навуковая і грамадская дзейнасць якога не задавальняла савецкія ўлады, усю працу Археаграфічнай камісіі стаў весці адзін вучоны — Д. Даўгяла, а планы камісіі значна паменшыліся.

У 1927, 1928 і 1930 гг. выйшлі з друку тры тамы падрыхтаваных Д. Даўгялам матэрыялаў Літоўскай Метрыкі пад назвай "Беларускі архіў". Акрамя таго, выйшлі падрыхтаваныя таксама ім помнікі сярэдневечнага беларускага пісьменства XVII ст. "Ліст да Абуховіча" і "Прамова Мялешкі", кнігі прыбыткаў і выдаткаў Магілёўскага купецкага дома першай паловы 80-х гг. XVII ст. Як археограф, г. зн. вучоны, які не толькі рыхтуе да публікацыі, але і адшуквае і апісвае старажытныя рукапісы, Д. Даўгяла вывучыў таксама помнікі беларускага пісьменства і іншыя каштоўныя гістарычныя матэрыялы ў бібліятэках і музеях Мінска на прадмет іх апублікавання. Большага Археаграфічная камісія Інбелкульта зрабіць не здолела — не паспела.

У 30—80 гг. археаграфія (праца па публікацыі гістарычных крыніц і навуковае вывучэнне гэтай працы) на Беларусі самастойна беларускімі вучонымі не ажыццяўлялася. У сваёй дзейнасці яны зыходзілі з ідэалагічных установак, дадзеных партыйна-бюракратычнымі органамі.

Напрыканцы 1999 г. Археаграфічная камісія на Беларусі ўзноўлена. Яна заснавана пры Дзяржаўным камітэце па архівах і справаводстве РАБ (старшыня — Р. Платонаў). Тое, што ўзнаўленне Археаграфічнай камісіі на Беларусі адбылося якраз цяпер, невыпадкова. Стварэнне яе звязана з актывізацыяй археграфічнай дзейнасці і распрацоўкай археграфіі як навукі на Беларусі ў папярэднія гады. У першую чаргу трэба назваць арганізацыю археаграфічнай справы і публікацыі гістарычных матэрыялаў вучонымі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы. Сама па сабе падобная актывізацыя патрабуе афармлення ў якасна больш высокую арганізацыю ажыццяўлення археаграфічнай працы акурат у камісію, якая кансалідуе гісторыкаў, што маюць археаграфічную арыентацыю. Аднак адной актывізацыі мала, патрэбны і канкрэтныя арганізацыйныя крокі па ўтварэнні камісіі. У 1999 г. абасняванне неабходнасці і канцэпцыю Археаграфічнай камісіі на Беларусі распрацоўвалі на старонках часопіса "Архівы і справаводства", на навуковых канферэнцыях і нарадах (у прыватнасці, у сакавіку на міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай 175-годдзю выхаду публікацыі І. Грыгаровіча "Беларускі архіў старажытных грамат") Я. Янушкевіч, Р. Платонаў, М. Шумейка.

Археаграфічная камісія павінна аб'ядназ лепшых спецыялістаў у галіне публікацыі гістарычных крыніц (як дакументальных пісьмовых крыніц — заканадаўчых актаў, справаводства, так і нарматыўных або апавядальных крыніц — мемуараў, запісак і г.д.) і вывучэння розных аспектаў іх публікацый. Яна будзе выпрацоўваць асноўныя накірункі публікацый дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду Беларусі і каардынаваць планы публікацый гістарычных пісьмовых крыніц у рэспубліцы. Найбольшай праблемай у арганізацыі працы камісіі з'яўляецца фінансавая, і камісія сама павінна адшукваць крыніцы фінансавання для ажыццяўлення сваёй дзейнасці.

На пачатку сваёй дзейнасці прадстаўнікі Археаграфічнай камісіі Дзяржархіва звярнуліся да вывучэння гісторыі архіўнай справы і археаграфіі на Беларусі. Ужо выйшла з друку складзеная намеснікам старшыні камісіі М. Шумейкам публікацыя матэрыялаў І-й канферэнцыі архіўных працаўнікоў БССР у 1924 г.

**Ю. НЕСЦЯРОВІЧ**

# Мікола ЕРМАЛОВІЧ



5 сакавіка 2000 года трагічна загінуў вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Кастуся Каліноўскага Мікола Ермаловіч.

Мікалай Іванавіч Ермаловіч нарадзіўся 29 красавіка 1921 года ў вёсцы Малыя Навасёлкі Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і.

У 1938 годзе паступіў на беларускае аддзяленне літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Да вайны скончыў тры курсы. У 1941—43 гадах працаваў настаўнікам у Мардоўскай АССР. У 1943—1944 гадах — на педагагічнай працы ў Суражы Віцебскай вобласці, у 1944—1946 гадах — у Дзяржынску Мінскай вобласці. У 1946 годзе аднавіў вучобу ў падінстытуце. З 1948 па 1955 год працаваў выкладчыкам беларускай літаратуры ў Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце, а пасля яго закрыцця быў загадчыкам метадычнага кабінета Маладзечанскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў. У канцы 1957 года па стане здароўя выйшаў на пенсію.

Сталай літаратурнай працай Мікола Ермаловіч пачаў займацца з 1948 года, заявіўшы пра сябе, як арыгінальны літаратурны крытык, літаратуразнаўца, апантаны даследчык гісторыі Беларусі. Пяру Міколы Ермаловіча належаць артыкулы пра Ф. Багушэвіча, Я. Лучыну, Я. Купалу, Я. Коласа, А. Гурыновіча, К. Каліноўскага, даследаванні пра Рагнеду, Еўфрасінню Полацкую. У гістарычным нарысе "Па слядах аднаго міфа" Мікола Ермаловіч мужна бараніў праўду летапісаў, ва ўсіх рэаліях і фактах набліжаў да чытача няпросты гераічны шлях беларускага народа. Цяпер рыхтуецца да друку яго кніга "Беларуская дзяржава — Вялікае княства Літоўскае".

Мікола Ермаловіч быў узнагароджаны медалём Ф. Скарыны, карыстаўся нязменнай пашанай і любоўю чытачоў.

Светлая памяць аб таленавітым пісьменніку, адметным вучоным, чалавеку надзвычайнай сціпласці, душэўнай дабрыні будзе жыць у сэрцах тых, хто яго ведаў, у памяці ўдзячных суайчыннікаў.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Самы відушчы гісторык

Мікола Ермаловіч...

Такое імя і прозвішча асабіста я пачуў у 60-я гады, калі быў студэнтам. Тады ў нас, на філфаку, на беларускім аддзяленні, можна сказаць, была пэўная вольніца. Не ўсе выкладчыкі ўбівалі ў нашы галовы догмы і стэрэатыпы, не ўсе з нас, студэнтаў, былі паслухмяныя зубрылы, нехк незаўважна вучыліся мысліць, аналізаваць, а ў выніку бачыць, разумець, што вакол нас нямала маны, фальшу і што трэба кожнаму з нас рабіць нейкі пэўны грамадзянскі ці проста чалавечы выбар: як і што рабіць, кім быць? Вось тады, у студэнцтве, я ад Рыгора Семашкевіча, з якім быў у прыяцельскіх адносінах, і пачуў: ёсць у Маладзечне Мікола Ермаловіч — заўзяты бібліятэкаман, эрудыт і той чалавек, які не толькі ведае сапраўдную нашу гісторыю, але, галоўнае, хоча, спрабуе пісаць пра яе не фальсіфікавана, як гэта было ў школьных і інстытуцкіх падручніках, а па-сапраўднаму, больш — са сваёй, беларускай канцэпцыяй.

Пазней, будучы ўжо настаўнікам, літрэдактарам у часопісах, я, уважліва чытаючы, пераканаўся, што не ўсё, як хоча, можа ў тых умовах сказаць і Мікола Ермаловіч, але робіць усё магчымае, каб многае сказаць паміж радкоў, у падтэксце. Гэта было вялікім дарам, уменнем абысці цэнзуру, хоць нельга было абысці ідэйных наглядчыкаў, апошнія і рабілі даносы, "ва ўсякія камсамольска-партыйныя цыдулкі для палітінфарматараў упісвалі Міколу Ермаловіча як "современного националиста", "идеализатора истории так называемого Великого княжества Литовского" і г.д.

Мікола Ермаловіч — амаль сляпы з маленства, жывучы на маленькую пенсію — ездзіў і ездзіў з Маладзечна ў Мінск, карпеў у бібліятэках, пісаў і пісаў сваё, можа, нават не спадзеючыся ўбачыць гэта калі-небудзь надрукаваным, даваў чытаць шчырым і хіжым да чужых поспехаў, — і ўсё гэта ствârала пэўную атмасферу ў сваёдомым асяроддзі, што прагла праўды, самапавагі, волі, а Міколу Ермаловічу бачыла тым, каму сам Бог паказвае правільны шлях.

За рупліўцам сачылі, яго мелі намер "пасадзіць", а то і прыбіць. Адчуваючы гэта, ён пачаў хітраваць з сістэмаю — прыкідваўся нямоглым, дахадзягам, а сам употай займаўся гімнастыкай, абліваўся халоднай вадою, дбайна праліваў свае гады і ацалеў сам, і зрабіў для ўсіх нас тое, што было наканавана зрабіць яму: амаль невідушчы, ён, філолаг, стаў нашым **самым відушчым гісторыкам**. Не хачу нікога абразіць, недааценьць, але нельга не сказаць праўды.

Нашыя асабістыя варункі пачаліся ў 80-ых, калі я пачаў намеснічаць у часопісе "Маладосць". Неяк мы рашылі надрукаваць нарыс пра Полацк не проста як пра наш самы старажытны горад, але як пра цэнтр пачатку нашай дзяржаўнасці, якой ужо не менш за 1000 гадоў, і заказалі матэрыял Міколу Ермаловічу. Ён усё зрабіў як след, і з'явілася яго публікацыя ды яшчэ з выявамі Рагвалода — першага вядомага нашага князя — і Рагнеды. Цэнзуру мы ўгаварылі, а вось гісторыкаў — не ўсіх: адзін з іх, З., які, кажуць, у ЦК КПБ і ЦК КПСС напісаў на сваіх сабратоў, нават самых ідэйных, 200 (!) даносаў (з 10 тамоў паклёпаў!), сцебануў па публікацыі ў "Звяздзе" са сваім "лепшым" наборам падтасовак і абвінавачванняў. Расхваляваны Мікола Ермаловіч літаральна ўбег у рэдакцыю ("Выбачайце, што я вас так падвёў"), нават прынёс свой адказ агульнабельшчыку. Нашага рэагавання запатрабавалі з ЦК ЛКСМБ і з ЦК КПБ, каб пасля "принять меры". Вось тут я, намеснік, ужыў тактыку "гульні ў футбол": маўляў, наш галоўны ў ад'ездзе, без яго не магу рэагаваць, а ў працэсе гульні запабегаў да дактароў гістарычных і філалагічных навук: падмацуйце нашу публікацыю сваім словам. Ніхто — ні гу-гу!!! Прызнаюся: для мяне гэта быў удар, як потым і для А. Грачанікава. У размовах з Міколам Ермаловічам выявілася: у яго ёсць кніга ці амаль падручнік па нашай старажытнай гісторыі. Рашылі: не адкладваць нягодніку, а выйсці на "паспаліты люд" — друкаваць Ермаловічаву "Старажытную Беларусь", чым нават разгубілі самога аўтара ("Што вы, хлопцы! Вас жа паздымаюць з работы!") Былі перасцярогі, застрашванні, але "Старажытная Беларусь" з'явілася і мела ашаламляльны рэзананс. Для сумленных людзей проста лекавы, для незычліўцаў і зайздроснікаў прыгнятальны. Той-сёй спрабаваў піскнуць: "Ат, якая гэта гісторыя! Аматарства!", але спрэчак не было: на ўсе элементы сваёй канцэпцыі Мікола Ермаловіч даў тысячы зносак крыніц, ды ўжо і пісьменніцкі свет даў бы адпор гнюсніку. "Старажытную Беларусь" адзначылі Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь, перавыдалі, яна падняла нашу свядомасць, адагнала цемру з нашай гісторыі, яна мае права стаць настольнай кнігай у кожным доме, каб кожны чалавек уведаў, адчуў, што мелі нашы продкі і што тое ж трэба мець і нам, — **сваю дзяржаўнасць**.

Не меншы поспех і Ермаловічавых "Па слядах аднаго міфа", іншых кніг, артыкулаў, рэцэнзій. Можа, не заўсёды ён меў рацыю, але бясспрэчна іншае: ён не цярпеў маны, фальшу, заўсёды быў шчыры, аддданы Бацькаўшчыне. Пакуль што ён, бадай, адзін такі менавіта на ўсю нашу краіну.

Мы з ім аб'ездзілі амаль усе старажытныя беларускія мясціны, ён вучыў мяне чытаць літапісы і хронікі і, канечне ж, невыпадкова аднойчы звазіў у Навагрудскі раён у Лаўрышава. Пераехалі на лодцы Нёман, прайшлі луг, лясок і наблізіліся да старой падмуроўкі. І сказаў Мікола Іванавіч: "Воишелк... приде опять в Новъгородок; и учини собе манастырь на реце Немне, межи Литвою и Новымгородком". Карацей, ён паказаў, дзе на самай справе пачыналася тая, летапісная Літва, адкуль у Навагародак запрасілі на княжанне Міндоўга і Войшалка, каб адзяржавіць Навагародска-Літоўскае гаспадарства.

Як мы з ім перажывалі ў 1986-ым, калі ў Лаўрышаве адкрывалі помнік, і ніхто слова не сказаў, што на помніку не столькі нейкі манах, колькі Войшалк — адзін са слаўных нашых дзяржаўцаў, які болей 700 гадоў таму рабіў тое, чаго не робяць нашы кіраўнікі (Ермаловіча і мяне ахова проста не дапусціла да мікрафона).

...Мікола Іванавіч, я выканаў Ваш наказ, напісаў раман пра 1245—1280-ыя гады. Маю ўжо сігнал "Кліча роднага звона", так хацеў паказаць яго Вам. На жаль, не паспеў. На пачатку рамана напісана: "Прысвячаю Міколу Ермаловічу, натхніцелю і дарадцу гэтага твора". Інакш паступіць я не мог, бо ганаруся, што жыў і знаўся з Вамі.

Слава Вам, вялікі сын зямлі нашай.

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

# Належыць будучыні

Трагічная смерць лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Міколы Ермаловіча адгукнулася глыбокім сардэчным болем. Беларусь у смутку. Памёр вялікі рамантык, які, нягледзячы ні на якія цяжкасці і перашкоды, упарта ішоў да здзяйснення сваіх навуковых задум і ажыццявіў іх.

Асабліва нялёгка перажыць панесеную страту тым, хто быў з ім блізка знаёмы.

Я ведаў Міколу яшчэ са студэнцкіх гадоў па вучобе на факультэце мовы і літаратуры ў Мінскім педагагічным інстытуце ў 1938—41 гг. Гэта быў энергічны, адкрыты, бескампрамісны юнак, у якім ужо тады можна было заўважыць будучага выдатнага даследчыка.

Мікола Ермаловіч, можна без перабольшання сказаць, здзейсніў творчы, чалавечы, а найперш патрыятычны подзвіг. Ва ўмовах матэрыяльнай неўладкаванасці і слабога здароўя, вялікіх праблем са зрокам ён доўгі час, жывучы тады ў Маладзечне, штодзённа прыязджаў у Мінск і карпатліва працаваў у бібліятэках. Пазней у знак вялікіх творчых заслуг вучонага маладзечанцы залічылі яго сваім ганаровым грамадзянінам.

Неяк пры адной з сустрэч Мікола Іванавіч расказаў, як загарэўся неўтаймоўным жаданнем аб'ектыўна зірнуць на гістарычнае мінулае Беларусі. Панаваўшая ў пасляваенныя гады абэцэдаршчына, ігнаруючы сапраўдныя факты гісторыі Беларусі, фальсіфікавала гэтае мінулае. І тады Мікола Ермаловіч узяўся за старажытныя рукапісы. І чым глыбей вывучаў іх, тым больш рабіў найважнейшых адкрыццяў.

Яго кнігі зрабілі пераварот у поглядах на старажытную гісторыю Беларусі, раскрылі антынацыянальную сутнасць міфаў і заблуджэнняў, што панавалі ў гістарычнай навуцы. М. Ермаловіч выступіў як перакананы вучоны адраджэнскага гарту. Менавіта гэта і зрабіла Міколу Іванавіча вядомым не толькі ў Беларусі, але і ў блізкім і далёкім замежжы.

Думаецца, аднак, што зроблены ім вялікі ўклад у гістарычную навуку аб Беларусі будзе па-сапраўднаму ацэнены толькі будучымі пакаленнямі. Хоць бы таму, што ён быў першапраходцам і першаадкрывальнікам і пракладваў дарогу новым поглядам ва ўмовах вялікага ціску з боку антынавуковых колаў, наскрозь прапітых духам манкуртызму і непавагі да ўсяго свайго, роднага.

Клапатлівы працаўнік, дбайны руплівец на беларускай гістарычнай ніве М. Ермаловіч залатымі літарамі ўпісаў сваё імя сярод слаўных імёнаў Бацькаўшчыны. Гэта быў вучоны па прызванні. Ён не меў вучоных ступеняў, але зрабіў у сотні разоў больш, чым тыя, хто меў кандыдацкія і доктарскія званні і карыстаўся афіцыйнай падтрымкай.

Заслугоўвае асаблівай увагі і павагі і тое, што, нягледзячы на пастаянную занятасць навукай, М. Ермаловіч ніколі не адмаўляўся ад сустрэч з грамадскасцю і ахвотна выступаў з прапагандай сваіх навуковых адкрыццяў. Усяго два тыдні назад ён абяцаў у тэлефоннай гутарцы ў чарговы раз сустрэцца з настаўнікамі і вучнямі.

Дарагі дружа Мікола Іванавіч! Радзіма заўсёды будзе помніць здзейснены табой подзвіг.

Хай мяккім пухам стане табе родная зямля.

Бывай, дарагі чалавек, паслядоўны адраджэнец, неўтаймоўны шукальнік ісціны, мужны патрыёт Радзімы.

**Вячаслаў МАШКО**

# Янка КАЗЕКА



4 сакавіка 2000 года памёр вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Янка Казека.

Іван Дарафеевіч Казека нарадзіўся 31 жніўня 1915 года ў вёсцы Кострычы Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Працоўны шлях пачаў рана. З 1931 года працаваў на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце, потым — у рэдакцыі шматтыражнай газеты "За ўдарныя тэмпы". Адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні лесатэхнікума. У 1938 годзе скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Дукорскай сярэдняй школе Пухавіцкага раёна. У 1939—1954 гадах служыў у Савецкай Арміі. У час Вялікай Айчыннай вайны — армейскі палітработнік. Пад Ельняй, у 1941 годзе, быў паранены. Пасля вайны працаваў у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва", пазней быў галоўным рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР. З 1967 года — загадчык рэдакцыі народнай асветы і друку, з 1969 па 1979 гады — намеснік галоўнага рэдактара, з 1980 года — старшы навуковы рэдактар выдавецтва "Беларуская савецкая энцыклапедыя" імя П. Броўкі.

Упершыню выступіў у друку з рэцэнзіямі і артыкуламі пра беларускую прозу ў 1935 годзе. Напісаў і выдаў шэраг зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў і літаратуразнаўчых прац: "З невычэрпных крыніц" (1958), "Беларуская байка" (1960), "Натхненне і майстэрства" (1963), "Кандрат Крапіва" (1965), "Няходжанай дарогай" (1973), "Голас часу" (1975), "Кузьма Чорны: Старонкі творчасці" (1980), "Гартаванне слова: выбранае" (1985) і іншыя.

Як удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Янка Казека быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені, медалямі, а за актыўны ўдзел у развіцці беларускай літаратуры — Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Яму было прысвоена званне заслужанага работніка культуры БССР за плённую працу па падрыхтоўцы і выданні дванаццацітомнай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

Пайшоў з жыцця таленавіты пісьменнік, добры, зычлівы сябра, чалавек высокай маралі. Светлая памяць аб Янку Казеку назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Маладосць" глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці Міколы ЕРМАЛОВІЧА — пісьменніка, гісторыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, пастаяннага аўтара выдання.**

**МГА "Беларускі кнігазбор" вельмі смуткуе з нагоды смерці выдатнага сына нашай Бацькаўшчыны Міколы Іванавіча ЕРМАЛОВІЧА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка, а таксама ўсім беларусам.**

**Калектыў "Беларускай энцыклапедыі" смуткуе з прычыны смерці былога супрацоўніка выдавецтва Івана Дарафеевіча КАЗЕКІ і выказвае шчырае спачуванне яго родзічам.**

**Сябры ўправы міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказваюць свае глыбокія спачуванні сябру рады і ўправы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" САВЕРЧАНКУ Івану Васільевічу з нагоды напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

